
Гучна на Варшаўскай →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Яўрэі ў Гайнаўцы →8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 46 (3209) Год LXII Беласток, 12 лістапада 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**XXIV Фестываль беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні «Бардаўская восень — 2017» паспяхова прайшоў з 2 па 6 лістапада і ахапіў не толькі Бельск-Падляшскі, але і Беласток, Нараўку, Нарву, Орлю, Гайнаўку і Шчыты-Дзенцялова. Цікава запрэзентаваліся 3 лістапада ў Бельскім доме культуры канкурсанты фестывалю і яго зоркі, а 4 лістапада — пераможцы конкурснага адбору і чарговыя зоркі. Узнагароду Гран-пры фестывалю здабыў дуэт «Чачэрская лютня» з Чачэрска. «Бардаўская восень» добра вядомая ў Рэспубліцы Беларусь, адкуль перш за ўсё прыязджаюць конкурсныя выканаўцы і зоркі фестывалю. У гэтым годзе ўдала запрэзентаваліся таксама маладыя спевакі з Беласточчыны, Адэсы і Таліна. Узнагароду Беларускага Радыё Рацыя атрымаў украінскі калектыў «Колір» з Адэсы, узнагарода Аб'яднання «Бельская кааліцыя» была прызначана гайнаўскай белліцэістцы Анне Бяляўскай і выпускніцы Бельскага белліцэя Кацярыне Хмур, якая атрымала таксама ўзнагароду публікі. Прыз журы фестывалю трапіў да калектыву «Геліёс» з Мінска. Сёлетнія зоркі фестывалю запрэзентаваліся таксама па-за Бельскам. Сярод іх быў Зміцер Вайцюшкевіч, які якраз адзначае 25-годдзе сваёй творчай працы і разам з музычнай групай «W-Z Orkiestra» даў займальны канцэрт на завяршэнне конкурснага дня фестывалю.**



Гран-пры фестывалю здабыў дуэт «Чачэрская лютня» з Чачэрска

# «Бардаўская восень – 2017»

— Цешыць, што падчас конкурснай часткі выступаюць прадстаўніцы Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў, у якіх ёсць стымул да развіцця ў галіне беларускай творчасці. Сёння выступаюць канкурсанты з Адэсы і Таліна і мы кажам, што беларуская мова гучыць ад мора да мора. Пераможцы нашага фестывалю пазней становяцца зоркамі. Падчас гэтага мерапрыемства выступяць зоркі, якія раней перамаглі на «Бардаўскай восені». Наш фестываль транслюецца на хвалях Беларускага Радыё Рацыя. Канцэртная зала Бельскага дома культуры запоўнена і гэта сведчыць, што людзі прыходзяць сюды, каб непасрэдна паслухаць выступоўцаў. У панядзелак першы раз наш фестываль наведае Гайнаўскі белліцэй, вучні якога паслухаюць канцэрт вядомага гурта «NAVI BAND», які выступаў на Еўрабачанні, — сказаў Ігар Лукашук, старшыня Звязу у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты», арганізатара Фестывалю «Бардаўская восень».

Падчас першага і галоўнага дня фестывалю конкурсны адбор і выступ зорак удала заказвалі ў БДК Ілона Карпюк-Дамброўская і Радаслаў Дамброўскі. Публіка была рада, што двух выступоўцаў, з ліку 12 канкурсантаў, было з Беласточчыны.

— Я спачатку рыхтавала на конкурс твор «Матуля» Зміцера Вайцюшкевіча, а пасля даведалася, што аўтар гэтага твора будзе працаваць у камісіі. Другі твор «Журналіст» узнік на словы Касі Бяляўскай, а музыку да яго склала я з Пятром Карпюком. Перад выступам я моцна хвалявалася, а зараз рада, што ўжо за мной сольны выступ перад публікай «Бардаўскай восені», — сказала белліцэістка з Нараўкі Анна Бяляўская, якая вучылася спяваць і выступаць на сцэне, між іншым у Студыі песні Гайнаўскага дома культуры. На наступны дзень аказалася, што Анна Бяляўская здабыла ўзнагароду Аб'яднання «Бельская кааліцыя» разам з Кацярынай Хмур, выпускніцай Бельскага белліцэя, студэнткай хімічнага аддзялення Гданьскага ўніверсітэта. Кацярына атрымала таксама ўзнагароду публікі, якая выбірала свайго фаварыта ў галасаванні ў час перапынку.


Узнагароду Беларускага Радыё Рацыя атрымаў украінскі калектыў «Колір» з Адэсы

Узнагароду Аб'яднання «Бельская кааліцыя» атрымалі Анна Бяляўская і Кацярына Хмур (злева)

— З «Бардаўскай восені» я пачынаю сольныя выступы, бо раней спявала ў калектывах, — заявіла Кацярына Хмур, якая спявала ў калектыве «Вянок» у бельскіх «тройцы» і белліцэі ды ў калектыве «Астэрыя», што дзейнічае пры Доме праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім.

Фестываль дапамагалі ладзіць валанцёры — бельскія белліцэісты. Белліцэісты з Бельска і Гайнаўкі былі таксама сярод публікі ў канцэртнай зале БДК. Пасля конкурснай часткі з адмысловымі канцэртамі займальна запрэзентаваліся зоркі фестывалю — «Босае сонца», Яўген Барышнікаў, «ILO & Friends» і Зміцер Вайцюшкевіч з групай «W-Z Orkiestra». 4 лістапада ў БДК цікава выступілі пераможцы конкурснага адбору, якіх вылучыла камісія ў складзе Зміцер Вайцюшкевіч, Алесь Камоцкі, Міхал Анемпадыстаў (усе яны — музыкі з Беларусі) і дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Складана было вылучыць пераможцу ўзнагароды Гран-пры, маючы на ўвазе розныя стылі музыкі. Цешыць добры выступ дзяўчат з Бельска і Нараўкі, якія спяваюць і ствараюць музыку, — сказаў Андрэй Сцепанюк.



— Частка сёлетніх канкурсантаў запрэзентавалася на высокім узроўні. Увагі заслугоўваюць спявачкі з Беласточчыны, якія не баяліся змагацца з канкурсантамі з Беларусі, — заявіў Зміцер Вайцюшкевіч і ўспомніў выступ са сваёй музычнай групай дзень раней у Мінску, дзе сабралася каля 1300 прыхільнікаў яго музыкі.

Узнагароду Гран-пры фестывалю здабыў дуэт «Чачэрская лютня» з Чачэрска на Гомельшчыне.

— Мы рады, што атрымалі ўзнагароду Гран-пры прэстыжнага фестывалю «Бардаўская восень», які вядомы ў нас, у Беларусі. Тут добрая атмасфера як сярод выканаўцаў, так і сярод публікі, — заявіла Паўліна Астрыкава з дуэта «Чачэрская лютня».

Узнагароду Беларускага Радыё Рацыя здабыў украінскі калектыў «Колір» з Адэсы.

— Калектыў «Колір» многа выступае ў Беларусі і можа ў ёй нават больш спантанна ўспрымаюцца нашы выступленні, чым ва Украіне. Мы развучылі дзве беларускія песні на фестываль, але маем намер уключыць у рэпертуар больш песень, якія будзем спяваць па-беларуску, — сказала Людміла Колер, вакалістка калектыву «Колір» з Адэсы, якога выступ асабліва спадабаўся публіцы.

Прыз журы фестывалю трапіў да калектыву «Геліёс» з Мінска.

— Тут вельмі добрая сяброўская атмасфера і нам добра выступалася перад фестывальнай публікай, — гаварылі Марыя Гаўрыленка і Аліна Казачэнка з калектыву «Геліёс».

4 лістапада ў канцэрце зорак фестывалю ўдала запрэзентаваўся калектыў «Пэрцэпцыя» з Бельска-Падляшскага — белліцэістка Магдалена Маліш і выпускнік белліцэя Міхал Зіноўчык, якія ў мінулым годзе атрымалі ўзнагароды Аб'яднання «Бельская кааліцыя» і публікі бардаўскага фестывалю. Цікава выступіў дуэт Сяргей Доўгушаў і Аляксандр Ясінскі з песнямі з новага альбома на вершы Уладзіміра Караткевіча і Анатоля Сыса. Займальны канцэрт даў Алесь Камоцкі, які доўга супрацоўнічаў з фестывалем «Барадаўская восень». Пасля выступу гурта «NAVI BAND» публіка моцна апладзіравала. У фестывальную нядзелю, 5 лістапада, у кафэ «Фама» ў Беластоку выступілі дуэт «Чачэрская лютня» з Чачэрска ды Аляксандр Ясінскі і Андрусь Такінданг з праектам «Hostel» і гурт «NAVI BAND». У рамках фестывалю «Бардаўская восень» Алесь Камоцкі 2 лістапада выступіў у Гміннай публічнай бібліятэцы ў Орлі. У Гміннай публічнай бібліятэцы ў Нарве запрэзентаваўся Яўген Барышнікаў, а ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы — Сяргей Доўгушаў. 6 лістапада ў Гайнаўскім белліцэі выступіў гурт «NAVI BAND», а ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» ў Шчытах-Дзенцялове ў гэты дзень спяваў Алесь Камоцкі.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Кастрычнік
## і кастрацыя мазгоў

Рэспубліка Беларусь адсвяткавала 100-ыя ўгодкі „„Вялікай кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі”. Раней штогод гэтую дату ў шырокім маштабе адзначаў Савецкі Саюз і ўся сусветная „прагрэсіўная абшчэственнасць”. Цяпер гэткімі рэліктамі засталіся толькі Беларусь і нікім афіцыйна не прызнанае квазітэрытарыяльнае ўтварэнне на тэрыторыі Малдовы — Прыднястроўе. Нават Кыргызстан ужо адмовіўся ад дзяржаўных святкаванняў з гэтай нагоды. Нават у „калысцы рэвалюцыі” Расеі перайначылі фармат адзначэння кастрычніцкіх угодкаў, хоць і трымаюць па-ранейшаму бальшавіцкага ідала ў шкляной труне на ўсеагульны агляд. Пра Расею — гэта асобная гутарка. Толькі там могуць размяшчаць на п’едэстале нацыянальных герояў адначасна крывавых бальшавіцкіх правадыроў і загубленую імі царскую сям’ю.

Я нарадзіўся ў 1967 годзе, якраз тады Савецкі Саюз выпусціў мноства памятных манет да 50-ых угодкаў бальшавіцкага перавароту — скульптура Мухінай „Рабочы і калгасніца” на пятнаццацікапейкавых, крэйсер „Аўрора” на дваццацікапейкавых, узлятаючая ракета на дзесяцікапейкавых, выявы Ільіча з узнятай угару рукой на металёвых рублях. Калекцыянеры і цяпер трымаюць іх у сваіх зборах, нягледзячы на таннасць, бо выбіта іх была агромністая колькасць. Дата адклалася ў памяці з дзяцінства. Гадоў да пятнаццаці я таксама шчыра верыў у ідэалы „Вялікага Кастрычніка”, у канцы школы ўжо сумняваўся, а ў дваццаць гадоў вярнуўся з савецкай арміі перакананым антысаветчыкам. Уся справа была ў даступнасці да праўдзівай інфармацыі. Як толькі гарбачоўская перабудова прынесла плынь разнастайных публікацый, у людзей пачалі адчыняцца вочы на гісторыю і рэчаіснасць. Многія шчырыя камуністы палілі свае партыйныя білеты, вялізная колькасць людзей выходзіла з гэтай „руководящей и направляющей” фальшывай, скрозь ілжывай і крывадушнай.

Зразумела, што сто гадоў таму, у 1917 годзе тысячы беларусаў шчыра паверылі ў светлыя ідэалы рэвалюцыі. Менавіта таму, што царская Расея была сапраўднай турмой народаў, а расейская палітыка прынесла рабаванні, бежанства, голад на беларускія землі. Так што зразумець тагачасных людзей можна. Не дзіва, што многія беларускія паэты палымяна ўслаўлялі „Вялікі Кастрычнік”, пісалі пра светлую будучыню свайго народа. Многіх неўзабаве чакала жорсткае расчараванне, а большыня песняроў сацыялістычнага раю была расстраляная ў засценках НКВД ці згінула ў савецкіх канцлагерах у 1930-ыя гады.

А вось зразумець сучасных людзей, якія ў Беларусі лічаць расейскую рэвалюцыю 1917 года вялікай падзеяй і заваёвай, папросту адмаўляюся. З сённяшняй уладай РБ то ўсё ясна, яе прырода менавіта там — у бальшавізме стагадовай даўніны. Нездарма сённяшнія міністры апранаюцца на парадах у энкавэдэшную форму, не проста так будуюцца фальшывыя „лініі Сталіна” і ладзяцца шабашы ў гонар рэвалюцыі. Пры тым на ўсё гэта выдаткоўваюцца вялізныя сродкі, не шкадуецца нічога. Улада якраз адпавядае сваёй ідэалогіі. Усё паводле Барыса Грабеншчыкова: „І людзі, страляўшыя ў нашых бацькоў, склалі планы на нашых дзяцей”. А вось тыя бацькі, яшчэ дастаткова маладыя людзі, якія дазваляюць выкарыстоўваць сваіх дзяцей на гэтых „пірах Валтасара”, падманных урачыстасцях з ветэранамі-энкавэдыстамі ў прэзідыумах, — як іх зразумець. Пры сённяшняй шырокай даступнасці да інфармацыі, да гістарычнай праўды, што ў іх галовах? Ці гэта проста такое прыстасаванства і рабскае падпарадкаванне, ці нейкая духоўная кастрацыя, поўная адсутнасць мазгоў?

Зайшоў днямі ў адзін гарадзенскі супермаркет, там аб’ёмная прадавачка гадоў пяцідзесяці гандлявала ля століка „Суперлато” і віншавала наіўных пакупнікоў латарэй „с празнікам”. „Как харашо была раньшэ, два выходных была на гадаўшчыну акцябрскай рэвалюцыі”, — казала яна сваёй суразмоўцы. Сварыцца не хацелася, а як пераконваць такіх індывідаў, я ўжо не ведаю.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Правадыр
## з хрэнам і гарчыцай

Інфармацыйная перагрузка робіць пустэчу ў маёй галаве. Прынамсі, у маёй. Я чытаў у інтэрнэце, што Настасся Ганчарова, віцебская мастачка, стварыла мастацкую інсталяцыю, з кампанентам — галавой Уладзіміра Леніна выразанай у... свіных хадках. Пароль «свіныя хадкі» ў анлайн-тэксце пра работу беларускай мастачкі аўтаматычна актывізаваў некаторыя кантэкстныя модулі для адлюстравання адпаведных спасылак. Напрыклад, такіх: «Патрэбна дыскусія пра структуру мяснoй прамысловасці ў Польшчы», «Smithfield Foods прадасць у Кітай свініну анлайн», «міністр Юргель ... аб кампенсацыі для фермераў у сувязі з АЧС»...

Доступ да сеткі Інтэрнэт адкрывае шырокія пазнавальныя магчымасці. Справа ў тым, каб умела выкарыстоўваць рэсурсы чалавечых ведаў, выбіраць іх для мэтавых патрэб. Толькі што гэтая здольнасць усё больш і больш адсутнічае. Сасмяглы ды цярплівы зачэрпне ваду з крыніцы далонню і будзе піць маленькімі глыткамі. Нецярплівы неадкладна разявіць адкрыты рот пад Ніягарскі вадаспад, што мусіць скончыцца трагічна. Маса і імпэт вады проста ўварве яму галаву. Інтэрнэт, і ў больш шырокім сэнсе, лішак неасвоенай веды, гэта Ніягара. Ужо мудрэц Сакрат прыйшоў да сціплага назірання, выяўленага ў сказе: «Я ведаю, што нічога не ведаю». Калі хтосьці прыйшоў да высновы, што яго веды нуль, дык мала памыліўся. З чагосьці трэба пачаць. Гэтак жа, як дом будуецца ад падмуркаў, так веды ад моцнай пазнавальнай падставы. Здагадка пра тое, што «з’елі» ўсе розумы, як той міністр Шышко, стаіць насуперак здароваму апетыту на веды. Веды гэта факт. Падобна як адсутнасць ведаў. На жаль, іроніяй фактаў, асабліва фактаў, якія супярэчаць адзін аднаму, ёсць тое, што яны нейкім чынам звязаны адзін з адным, што цягне за сабой далёка ідучыя наступствы, што робіць з менш важных важныя, з тымі, а з дурных разумнейшыя. Ці ўсё наадварот. Толькі як у гэтым разабрацца?

Вяртаючыся да працы Настассі Ганчаровай, адсунуўшы аспект марнавання ежы, яе творчы акт здаваўся мне даволі пацешным спачатку, хаця папахваючым плагіятам. Дзецям ва ўсім свеце ўжо даўно вядомыя так званыя «жэлкі» ў форме плюшавага мядзведзіка або іншых істот, для вырабу якіх выкарыстоўваецца свіны жэлацін. З дадаткам фруктовых араматызатараў яны смачныя. Ні ў якім разе, аднак, беларуская мастачка не мела намеру сваю працу прызначыць для ежы, хаця «свіную» галаву правадыра рэвалюцыі падперла агуркам. Нават нож убіты ў жэлацінавую масу не заахвочвае да спажывання. На самой справе ўся ўстаноўка была задрапіраваная чырвонай тканінай, якая прадстаўляе «падраныя чырвоныя сцягі і патокі крыві: усё, што адбылося пасля 1917 года». Па словах мастачкі не мела гэта, аднак, прыкмет палітычнай правакацыі. Фігура Леніна фактычна разглядаецца як «мема» рэвалюцыі. «Гэта такі тонкі сарказм, жарт пра тое, што ўжо даўно вядома пра Леніна. Многія людзі асуджаюць яго, многія людзі не вераць, што яго ўклад у сусветную гісторыю быў асабліва пазітыўным», — сказала мастачка.

Тут я ўспамінаю старую добрую прымаўку: «Чым далей у лес, тым больш дрэў». Кожны можа свабодна паставіцца да рэальнасці, у адпаведнасці з яго розумам і ведамі. Яго аўтарства трэба аднесці да мудрасці мінулых пакаленняў. Не аднаго генія. Стала яна глыбокай мудрасцю ў выніку калектыўнага досведу, выніку як адзінкавага глупства, так і мудрасці — і іх пакаленнай эвалюцыі ў кагнітыўны сінтэз. Гэта як пісаць на вадзе ўзоры Эйнштэйна або крычаць у пустыні. Дзеянні дастаткова нетрывалыя, як Сізіфавы. З цяжкасцю як людзі ў цэлым мы прыходзім да любых ведаў, каб пасля іх прамантачыць як адзінкі. У нас ёсць веды, якіх мы не выкарыстоўваем. Ці не зможам. Якое марнатраўства! Пытанне: што з гэтага вынікае? Мне здаецца, што чым прычынна-выніковыя звёны ў кагнітыўным ланцугу наступных пакаленняў усё слабейшымі, чым больш ён доўгі. Працэй — чым больш мы ведаем як супольнасць, тым больш становімся дурнейшымі. Хаця ні сусветныя войны, бальшавізм, нацызм або халакост, або нават дзейнасць міністра Шышко не навучылі нас нічога. Або навучылі... пагарды для чалавечага глупства. Ці гэтага хопіць, каб лічыць сябе мудрымі? Устаноўку Настассі Ганчаровай пасля двух дзён экспазіцыі разабралі. Думаю, што не з-за палітычных меркаванняў, а практычных. Хадкі пасля двух дзён псуюцца. Не з’ясі іх нават з хрэнам ці з расійскай гарчыцай.

Міраслаў ГРЫКА

Сваімі вачыма

# Памяць і малітва

Першае лістапада, серада, сярэдзіна тыдня. У гэтым годзе менавіта на гэты дзень выпала ў Польшчы каталіцкае і дзяржаўнае свята памінання продкаў — дзень Усіх святых. Як не глядзі, але менавіта вельмі часта змрочнае, зацяжное восеньска-зімовае надвор’е спадарожнічае вандроўкам мільёнаў палякаў на магілы родных і блізкіх. Перавод стрэлак гадзінніка на зімовы час у гэтым перыядзе толькі ўзмацняе дэпрэсіўнасць сутыкнення з цемрай ночы і чалавечым праміннем, з якім гадамі стараемся змагацца і ратаваць ад забыцця сваю і сямейную памяць. Мой сябра, які вярнуўся з паездкі на магілы ў другі канец ваяводства, а сам жанаты з беларускай, па-філасофску прызнаў, што прыпамінанне продкаў у праваслаўных у велікодна-правадны перыяд дае, апрача цёплага надвор’я, больш радаснай надзеі на збаўленне. Дарагі Стэфан, дзеля тваёй інтуіцыі і сумненняў я праверыў гісторыю свята і хачу сказаць, што ты не памыляўся ў сваіх адчуваннях. Памяць аб продках у Антыёхскай царкве ад чацвёртага стагоддзя адзначалася ў першую нядзелю пасля Зялёных святкаў. Толькі папа Рыгор IV у 835 годзе перанёс гэтыя святкаванні на 1 лістапада. Вось і бачыш, які атрымаўся скачок часу — з веснавога на восеньскі.

У грамадска-дзяржаўным вымярэнні Польшчы гэтая дата з’яўляецца нагодай прыгадаць прызнаных герояў і тысячы ананімных чалавек, якія ў змаганні за незалежнасць і свабоду краіны прынеслі на яе алтар у ахвяру сваё жыццё, часта вельмі маладое. Гістарычная памяць і палітыка дзяржавы памятаюць таксама пра магілы сваіх суродзічаў, расцярушаныя ў іншых краінах ці кантынентах. Апынуліся яны там найчасцей па волі крууцельскай пані Гісторыі і не раз станавіліся ахвярамі ваеннай палітыкі — заложнікамі смерці. Аднак вяртанне з забыцця памяці польскага народа, так як і кожнага іншага, не павінна адбывацца на канфрантацыйнай ноце з гістарычнай праўдай і геапалітычнай рэальнасцю. Польшча не суседка і не гаспадар нейкай міфічнай зямлі-краіны «Усходнія крэсы». Тут проста знаходзяцца незалежныя дзяржавы: Літва, Беларусь і Украіна. І менавіта пастаяннае падколванне сваіх суседзяў наконт нацыянальна-гістарычнага кшталту іхніх зямель з’яўляецца блізарукасцю адказнай палітыкі і праявай празмерных імперскіх комплексаў.

Але кіньма палітыку і вяртаймася да каштоўнасці памяці аб продках. Менавіта акцыі збору грошай у карысць ратавання і рэстаўрацыі гістарычных помнікаў на могілках прыгожа ўпісаліся ў польскую традыцыю гэтых кранальных душу кожнага чалавека дзён. У выніку з забыцця і для наступных пакаленняў вяртаюцца не толькі эстэтычна-мастацкія каштоўнасці даўніны, але самае галоўнае, вяртаецца і адбудоўваецца памяць пра людзей, якім былі ўзведзены аднаўленыя помнікі. Усё пачалося на варшаўскіх Павонзках дзякуючы славутаму Ежы Вальдарфу. Зараз акцыя набыла агульнапольскае вымярэнне і паспяхова развіваецца. Задзейнічанне ў ёй шырокавядомых акцёраў, журналістаў, людзей культуры прыдае важнасці акцыі збору ў грамадстве, а тым самым спрыяе шчодрым ахвяраванням.

Затым другога лістапада былі Задушкі. Гэтым днём на каталіцкіх могілках моляцца за ўсіх памерлых вернікаў, душы якіх знаходзяцца ў чысцілішчы. Такое месца невядомае ў праваслаўнай абраднасці, паводле якой чалавек пасля смерці ідзе на свой індывідуальны суд Божы. Паводле каталіцкага навучання, калі чалавек памёр у граху, а грэх настолькі невялікі, каб адразу трапіць у пекла, душа павінна прайсці працэс ачышчэння. Яна тады заўважае сваю подласць і сама шукае месца і спосаб ачысціцца і выправіць здзейсненыя крыўды, бо хоча быць чыстай перад Богам і апынуцца сярод святых. Душы памерлых патрабуюць дапамогі, якая можа прыспешыць працэс ачышчэння. Ад жывых такую дапамогу можна атрымаць шляхам пакуты, міласціны і малітвы ў час святой імшы. Дзень Задушны нарадзіўся пры канцы X стагоддзя, а ўжо ў XIII стагоддзі стаў вядомы ва ўсім Касцёле лацінскім.

Яўген ВАПА

# На Варшаўскай 11 гучна




■ Аліцыя і Аляксандра Перавой

**«Пявучыя сем'і»** — найнавейшая ініцыятыва Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Ужо чацвёрты раз запар у сядзібу Галоўнага праўлення па вуліцы Варшаўскай 11 у Беластоку сабраліся 22 кастрычніка аматары беларускай песні — слухачы і выканаўцы. Сёлета напэўна не падвяла публіка, якая шчыльна запоўніла залу па вуліцы Варшаўскай 11 і чакала да ацэнкі журы выступіўшых калектываў, даўшы ўжо пасля конкурсу свой канцэрт. У сёлетнім конкурсе перамаглі: у двухпакаленнай катэгорыі сярод вакальна-інструментальных калектываў гурт «Стэбло» (сям'я Місіюкоў-Шэрэмэтаў) і трыо «Мама і сыночкі» (Івона, Цэзар і Адрыян Данілюкі) з Міхалова. Сярод аднапакаленных калектываў на І месцы — дуэт Кася і Марта Васькоўскія, на ІІ — сёстры Астапчук з Грабаўкі, на ІІІ — дуэт Аляксандра і Аліцыя Перавой з Бельска-Падляшскага. Сярод шматпакаленных калектываў на ІІ месцы апынуўся сямейны квартэт Карповічаў з Гарадка — Янка з Ірэнай і Грышкам ды Матыльдай.

У фінансаванні мерапрыемства дапамагло БГКТ Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы, так як і ў наступным мерапрыемстве — у XXIV прэзентацыі **«Беларускі абрад на сцэне»**, які праводзіцца не толькі ў Беластоку. У аглядзе 5 лістапада ў сядзібе БГКТ прыняло ўдзел пяць калектываў. Сярод гледачоў — верныя спадарожнікі беларускай самадзейнасці і іх сябры. Успамінаюць час, калі дом па вуліцы Варшаўскай, 11, (і не толькі тут) гудзеў ад маладых галасоў харыстаў ды салістаў і тупату спраўных ножак танцорак і танцораў ды быў беларускім клубам, дзе знаёміліся маладыя і завязваліся трывалыя беларускія пары. Успамінаў Сакрат Яновіч: „У галіне мастацкай самадзейнасці — Галена Зюлкоўская ненатуральнай грацыі накшталт лялькі Барбі, але па-мужчынску энергічная дырыжор хору; дагэтуль кіравала ім Людміла Панько, унікальная інтэлігентка з віленскай гімназійнасцю, з мяккай культурнасцю. Балетнай групай камандавала Тацяна Гіжэўская з бельскіх мяшчан, тых шпанюючых у гутарцы на правільное петербургское произношение. Спадарыня Гіжэўская ў паўзы пакурвала папяросы, мела манеры расійскай мадам, што панічна бянтэжыла паросльіх звычаёвым мохам бандарска-зубаўскіх донжуанаў. Проста гіпнатычна паралізавала яна іх, выраслых у народнай петушиности». А Ніна Бручко-Анджэюк: «Што нам даў удзел у мастацкай самадзейнасці? Я ўсё маладое жыццё марыла аб тэатры. Здзяйсняліся нашы мары, мы маглі знаёміцца, сустракацца і выступаць. Усе былі разам, па-беларуску. І кожны быў сабою».

Сёння тут Марыя Байгуз, якая з мужам Віталём выступала ў тэатральнай групе беластоцкага аддзела БГКТ, Надзя Лісоўская: «Прыйдзеш на Варшаўскую 11, і ўсё прыгадваецца. Як мы рыхтаваліся, як выступалі, як сябравалі. Міла ўбачыць, што ў большасці выступае тут маладое пакаленне, хаця зрэдчас трапіцца якісь магіканін, які не спыніў свайго творчага ўдзелу ў беларускай культуры». Сцяпан Зенюк: «Хаця ўжо добра пасівелі скроні. Памятаецца мне, як я, настаўнік беларускай мовы ў гарадоцкай школе, трымаўся на сцэне з расспяванымі гарадчанкамі, выступаў з імі ў п'есах. Ды няма ўжо з намі Ніны Мушынскай, Ірэны Паўлючук, Ніны Цыванюк...».

Фізічна няма такіх эталонаў падляшскай беларушчыны, як Ніны Цыванюк, але далей спрацоўвае іх творчасць. На XXIV прэзентацыі абрадавых калектываў асновай п'есы «Як Яшка стаў чалавекам», дзе выступаюць школьнікі з Нарвы пад апекай Ніны Абрамюк, з'яўляецца твор Ніны Цыванюк.

— На яе творы аснавана наша сцэнка, дадала я тое, што памятаю са свайго жыцця. Сёння ў нас не хапае трох вучняў. Трэба крыху змяніць сцэнарый. Вучні кажуць: калі б быў у нас яшчэ Крыстыян Паскробка, далі б рады паімправізаваць, ён жа зайграў бы за кожнага.... А наш Яшка як стаў чалавекам? Быў ён негаспадарлівы, а пра ўсё дома дбала толькі жонка. А ад сёння ён будзе дбайным чалавекам. Узялася за яго цешча, а яго жонку выбралі солтысам. У мяне цяпер амаль усе пачаткоўцы. Некаторыя вучні толькі сутыкнуліся з беларускай мовай. Ёсць вучні, якія прыехалі з Украіны, або якіх бацькі прыехалі з Польшчы. Яшку іграе Міхась Тапалянскі з Трасцянкі.

Віцэ-старшыня ГП БГКТ Васіль Сегень:

— Сэнс такіх мерапрыемстваў, такіх сустрэч з беларускай традыцыйнай культурай глыбейшы. З традыцыямі, абрадамі звычаямі. Нас цешыць асабліва тое, што маладыя на сцэне. Як сёння можам пабачыць — і Нарва, і Гайнаўка. Некаторыя з выступоўцаў праяўляюць нават вялікія здольнасці, талент у напрамку акцёрства. Ведаеце, што сёння моладзь, дзяцей заахвоціць да таго, што традыцыйнае, і што мала папулярнае, не так проста, што не значыць, што гэта немагчыма. Гэта таксама ў будучыні пэўны фактар, які трэба браць пад увагу і дзейнічаць у гэтым напрамку. ***Каб маладыя не забывалі***, адкуль іх дзяды, прадзеды, бацькі, і каб працягвалі гэта далей. Калі не стане гэтых бацькоў, дзядоў, нас, каб маладыя перанялі гэта. Бо калі забудзем і пра нашу гісторыю, традыцыі, звычаі, то нас звычайна не будзе — нас, як беларускай меншасці ў Польшчы, беларускай нацы... Прэзентацыі абрадаў будуць на Беласточчыне — звычайна ў Бельску, у Гайнаўцы. Сёлета яшчэ тое, што было звычайна ў Дубічах-Царкоўных, войт рашыў перанесці ў Грабавец, паколькі там новая святліца — паказаць абрад крыху іншай публіцы. У Дубічах заўсёды шмат людзей прыходзіла на агляд, як і ва ўсіх мясцовасцях, вельмі радых паглядзець родныя абрады. Гэтую ініцыятыву войта прынялі мы з задавальненнем. І традыцыйна ў Гайнаўскім доме культуры — завяршальная імпрэза. Сёлета — дзесяць абрадавых сцэнак можна будзе пабачыць. У Беластоку будзе яшчэ іншая сустрэча, 17 лістапада, з іншымі пяццю калектывамі.



■ Хрысціны



■ Універсітэт залатога веку з Бельска



■ «Васілёчкі» квасяць капусту

— А хто вас прыцягнуў, спадар Юрка? — пытаюся «разынка» з калектыву Залатога веку з Бельска-Падляшскага, у якім сапраўды ўсе мастакі спелага ўзросту. Дзейнічаюць яны перш за ўсё ў Бельску, нядаўна паказвалі абрад Дзядоў.

— Тамара Русачык — хто ж бы іншы! — адказвае Юрка Хаманскі. — Калі трапіў на пенсію, пачаў ездзіць на заняткі Універсітэта трэцяга ўзросту. А быў я земляробам, гаспадаром у Спічках. Меў найбольшую там гаспадарку. Пяцьдзясят штук кароў меў дойных, 50 штук быдла, коней дзевяць штук. На сыноў перапісаў. А тут маю энергію і «разрыўку».

— Падрыхтавалі мы цяпер «Гуканне вясны», — кажа былая настаўніца і метадыст беларускай мовы Тамара Русачык, матор кампаніі.

Вера Масайла з Гайнаўскага дома культуры са сваім гуртом «Званкі» паставіла новую п'есу, напісаную сабою — «Як тут не верыць у шаптух», дзе маладыя акцёры выступілі дынамічна, умела і выклікалі аўтэнтычны энтузіязм сярод гледачоў.

— Гэта сапраўдная гісторыя з пасляваеннага часу на Беласточчыне. Расказвала пра яе мая мама — у гэты раз гэта камедыя, пра пачуцці і скандал у вёсцы, дзе дапамагчы развязаць драматычную сітуацыю памагла шаптуха. Прыйшлося выкарыстаць і зёлкі, і драбіну, і хамут...

Выдатна зайграў падвойную ролю — бацькі і каханка Алены, Колю — Давід Ціханюк. Да такой ступені пераўвасабляўся, што гледачы не маглі проста паверыць, што іграе двух такіх розных герояў адзін акцёр. Спадабаўся таксам гледачам «Яшка» — Міхась Тапалянскі, і «галоўны таптач капусты» спадар Уладзімір Весялоўскі з «Васілёчкаў», які выступіў у абрадавай групе пад кіраўніцтвам Ніны Бялецкай з «Шаткаваннем капусты». Бяльшчане з «Васілёчкаў», якія паставілі яшчэ абрад «Хрысцін», паказалі свой вялікі талент як калектыў. «Яны быццам нарадзіліся і жывуць на сцэне!» — заўважыў Сцяпан Зенюк. Сапраўды, шмат іх вырасла, выхавалася на беларускай сцэне. Таму ёсць надзея, што і маладыя акцёры, пад крыламі Ніны Абрамюк, Веры Масайлы і іншых таленавітых і шчырых майстрых роднага слова яшчэ гадамі будуць змагацца за яго кожны як умее і працягнуць родную традыцыю. І родны гоман ды песня будуць гучаць і ў вясковых святліцах, дамах культуры, і па Варшаўскай, 11, у Беластоку.

Фота і тэкст **Міра ЛУКША**

# Сямейная карункавая вытворчасць

**Спадарыня Валя Вітошка (у дзявоцтве Мінцэвіч), 1950 года нараджэння, з Орлі, настаўніца на пенсіі, у мінулым многія гады займалася карункавай вытворчасцю.**

Інтэр'ер дома спадарыні Валі ўпрыгожваюць уласнаручна выкананыя шматлікія карункі, а полкі ў шафах поўныя вытанчана вязаных кручком навалочак на падушкі, аздобленай кручком пасцелі, настольніц, накідак на лавы, сурвэт і сурвэтак, падкладак пад настольны сервіз. Сёння так успамінае:





■ Валя Вітошка вяжа кручком сурвэтку. Побач яе ранейшыя працы: вязаныя кручком падушачкі, размаітыя накідкі на лаву, каляровыя сурвэты і сурвэткі, падкладкі пад сервіз. Карункавыя працы Ніны Мінцэвіч і ейнай дачкі Надзі Мартынюк (Валінай сястры): звязаныя кручком фартушок, блузкі, падушачкі — таксама вязаныя пруткамі, сурвэты і сурвэткі, настольніцы, накідкі на лаву, падкладкі пад сервіз

— Вязання кручком навучыла мяне мама Ніна яшчэ калі я вучылася ў пачатковай школе; мама паказвала, тлумачыла. Спачатку вязала я толькі сурвэткі, белымі ніткамі, «дзясяткай». Узоры брала ад мамы і з часопісаў. Мама вязала кручком з нітак нават блузкі.

Мама — Ніна Мінцэвіч, успамінала:

— У арлянскай школе, пры санацыі, настаўніца Марыя Врублеўская вучыла дзяцей вязаць пруткамі, вышываць і вязаць кручком.

У краме можна было купіць ніткі ў вялікіх мотках; называліся яны «Белька». Вывучаныя ў школе ўмеласці прыдаліся потым — рабіла рэчы для дому і для дзяцей.

Вязаннем кручком занялася ўсур'ёз, калі пачала працаваць настаўніцай у Войтках (Боцькаўская гміна), дзеля каратання свабоднага часу ў малой вёсцы. Рабіла вечарамі. Калі перайшла на працу ў Орлю, то таксама вязала кручком у вольны час. А калі ў 1980-х гадах даязджала на працу ў малінніцкай школе, то вязала ў аўтобусе, даязджаючы. З мяне падсмейваліся, што не ўмею марнаваць часу, — успамінае з усмешкай.

А пасля надалей вязала кручком. Вязала кручком таксама навалачкі на падушачкі, вязаныя кручком устаўкі ў пасцель. Пасцель шыла мама. Для гэтых уставак пакідаліся пустыя месцы пасярэдзіне і на рагах пасцелі.

Запар са мною вучылася вязаць кручком і малодшая сястра Надзя, якая пасля таксама многа вязала і вышывала.

Пазней стала вязаць пруткамі. Рабіла ўзорыстыя світары сваім сынам і сабе. Выканала за дваццаць світараў з гарусу і воўны.

Рабіць світары навучыла мяне знаёмая настаўніца Оля Рынгайла, якая да таго ж прыгожа вышывала крыжыкам розныя карціны ў рамкі. Такім рукадзеллем займалася таксама настаўніца Міра Раманюк. На занятках у арлянскай святліцы вязаць пруткамі маглі вучыцца ахвотныя дзеці.

Запісаў і сфатаграфаваў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Нашы вёскі пусцеюць

На г.зв. Усходняй сцяне Беласточчыны з кожным годам пусцеюць вёскі. Найхутчэй гэты працэс адбываецца ў Гайнаўскім, Бельскім і Сямятыцкім паветах. У іх пражывае шмат састарэлых асоб. Гэта пераважна пенсіянеры ды інваліды. Тут нараджаецца мала дзяцей. Моладзь паехала „за хлебам" у бліжэйшыя замежныя краіны ў заходняй і паўночнай частках Еўропы. Маладыя мужчыны і жанчыны там пачалі працаваць і застаюцца на пастаяннае жыхарства. Яны пакінулі родныя мясціны, у якіх не могуць знайсці сабе працы. Зараз у Падляшскім ваяводстве яны не бачаць аніякай перспектывы лепшага ды стабільнага жыцця ў будучыні.

У замежных краінах працавітыя беларусы з Беласточчыны на працягу 4-6 гадоў пабыўкі купілі сабе кватэры, а некаторыя пабудавалі сабе ўласныя дамы. Я прытрымліваюся фактаў. Гэтак зрабілі замужняя дачка і двух сыноў мае роднай сястры. Зараз яны пражываюць у Швецыі і ў Фінляндыі. Малодшы сястрын сын ажаніўся і жыве ў Швецыі, ужо стаў бацькам. Ці яны вернуцца ў вялікую пакінутую бацькоўскую хату (раней жылі ў ёй дзве сям'і) ды гаспадарку (каля хаты на г.зв. калёніі маюць поле, сенажаць і шматгадовы лес)? Сёлета летам старэйшы сын прыязджаў з Фінляндыі (перад выездам за мяжу працаваў у нарваўскай фірме „Пронар") у свой дом ды яго нанава перакрыў. Ён дбае пра свой родны куток. Штодзень сцеражэ яго ягоны добры сябра з Новага Ляўкова.

Паводле даных ГУС у першай палавіне гэтага года з Падляшскага ваяводства выехалі і зарэгістраваліся за мяжой 192 асобы. Гэта на 90 больш чымсьці ў першай палавіне мінулага года. Штогод сотні маладых людзей выязджаюць з нашага ваяводства ў іншыя бліжэйшыя і далейшыя ваяводствы нашай краіны і там яны шукаюць працу.

Зараз найхутчэй пусцеюць альбо выміраюць вёскі на Гайнаўшчыне. Некаторыя ўжо шмат гадоў на дэмаграфічным мінусе. У іх смерць збірае жніво. Адыходзяць ад нас перш-наперш самыя пажылыя жыхары. Яны тут пераважаюць сярод іншых узроставых груп насельніцтва па колькасці. Даволі часта паміраюць, што ні кажы, мужчыны-алкашы ў сярэднім узросце. Яны, як кажуць мае аднавяскоўцы, паміраюць па сваім пажаданні.

Многа асоб памірае па старасці і ад хвароб у Дубіцкай, Кляшчэлеўскай, Нараўчанскай і ў Чаромхаўскай гмінах Гайнаўскага павета, у Бельскай вясковай і ў Боцькаўскай гмінах Бельскага павета ды ў Мельніку Сямятыцкага павета. У вышэйзгаданых гмінах памірае два а то і тры разы больш чалавек, чымсьці нараджаецца дзяцей. Напрыклад, у Дубіцкай гміне нарадзілася 10 дзяцей і памерлі 33 чалавекі, у Кляшчэлеўскай гміне нарадзілася 13 дзяцей і памерла 38 асоб, у Боцькаўскай гміне нарадзілася 11 дзяцей і памерлі 33 чалавекі ды ў Мельніцкай гміне нарадзілася 16 дзяцей і памерла 35 асоб.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Не трэба сабака ў кватэры

**Усё большая колькасць беларускіх і заходніх шкадобнікаў пасабляюць беларусам любіць прыроду. Без сабачак і кошачак, ці бачыце, беларускія кватэры жыць не могуць.**

Пісьменнік, доктар народнай медыцыны Валер Санько прааналізаваў новаўвядзенне з даследчыцкіх пазіцый. Тысячагадовая традыцыя, у тым ліку даўнішнія пласты прыкметавасці, доказна сведчаць: кожнай істоце прыродай адведзена сваё месца для існавання.

У кнізе «Сабака ў кватэры — сябра ці вораг. Што кажуць пра гэта народныя прыкметы», 2017, 96 стар. В. А. Санько аргументавана паказаў плюсы і мінусы нечакана ўзніклай праблемы. Упершыню ў Беларусі аматарам ваўнянай жыўнасці ў кватэрах кніга расплюшчвае вочы.




На адбылых чытацкіх сустрэчах слухачы рэзонна пыталі пра карысць ад сабакі ў гарадской кватэры, і самі адназначна робяць вывад. Адмоўны.

Спецыялістамі і неспецыялістамі многіх краін свету ў розныя часы справядліва і доказна шмат сказана на абарону сабакі. Ён патрэбны хлебаробу побліз хаты, дачніку, ахоўніку, паляўнічаму, воіну, міліцыянеру, даследчыку ў лабараторыі. Прыносіць карысць леснікам, таможнікам.

Аўтар сабраў прыкметы ў старых людзей за дзесяцігоддзі паездак па Беларусі, у вёсках і мястэчках, бальніцах, вывудзіў з архіваў, старабытнай літаратуры, вытанцаваў у вешчуноў, шаптуноў. Болей таго, класіфіцыраваў па многіх злабадзённых тэмах — уплыву на беларускае жыццё гарэлкі, курава, лаянкі, інтэрнэтных забавак, наркаты, самазабойстваў, адмовы ад веры продкаў... Асабліва выразна чытаюцца народныя прыкметы на непатрэбшчыну сабак і кошак у гарадскіх кватэрах.

У цяперашнім кніжным верхаглядстве і пенстве сталыя чытачы адзначаюць прароблену аўтарам шматгадовую цяжкую працу.

Здаўна вядома, народныя прыкметы дзейнічаюць напрамую і не напрамую на ўтрымальніка жывёлы ў гарадской кватэры, дзяцей.

З кім не сустрэнешся, уражваюць шматлікія прыклады адмоўнасці гэтай жыўнасці ў чалавечым жыллі.

Хіба гэта нармальна, калі раней сем'і з малышня хваліліся, што даглядаюць курак і парасятак, умельствам працаваць, цяпер граматныя і напаўграматныя дарослыя зачастую вучаць малых лячыць кватэрных жывёл, гуляць, умела адпачываць, часцей ездзіць на поўдзень.

Малюнак у цэлым па Беларусі выглядае непрыглядным. За шэсць месяцаў 2015 года па антырабічную дапамогу звярнуліся 10 233 чалавекі, больш як 7 000 чалавек атрымлівалі прышчэпкі супраць шаленства. 70% з іх кантактавалі з сабакамі. Не дзіва, хто цалуе кошак і сабак, атрымлівае інфекцыі, бактэрыі.

За леташні год (2016) у Беларусі адстралялі ці ўсыпілі 69 тысяч бадзяжных сабак. У двухмільённым Мінску чатыры тысячы.

Аўтар, а за ім і я, перакананыя: варта сунынець выстаўкі, фестывалі гэтай жыўнасці, што шырокім фронтам распаўзаецца па вялікіх і маленькіх гарадках, школах.

Прыходзіцца толькі здзіўляцца, чаму на Беларусі праводзяцца выстаўкі сабак і кошак, а пра агляды курэй, гусей, кароў, коней не чуваць, нават у сталіцы.

**Уладзімір ВАСЬКО,**
**пісьменнік, г. Ліда**

Фота Міры ЛУКШЫ



# Пачатак пачаткаў **Тарасэвіча**

**„Дастаткова пашукаць у інтэрнэце інфармацыю пра канкрэтнага мастака, нажымаеш энтэр і паяўляецца дадзены мастак", — сказаў Лявон Тарасэвіч у інтэрв'ю, якое ўзяў у яго Лукаш Арбітоўскі для тэлеканала «Культура». Так менавіта рыхтавалася я да сустрэчы з вялікім мастаком з нагоды вернісажу яго выставы ў Мастацкім ліцэі ў Супраслі. Такія мерапрыемствы звычайна не спрыяюць сур'ёзным размовам. Зашмат людзей, зашмат галантных тэт-а-тэт. І я не памылілася. Пад выставачнай залай на першым паверсе палаца Бухольцаў — сядзібе ліцэя чарга быццам пад мясной крамай трыццаць гадоў таму назад. Калегі мастака па школьнай парце, цяперашнія вучні таго ж ліцэя, ну і, вядома, чыноўнікі а таксама СМІ. Карацей кажучы, усе, што трэба. Падзея не абы-якая — сустрэча са школьнымі работамі Тарасэвіча 1972-1977 гадоў.**

На дзвярах выставачнай залы афіша з архіўным фотаздымкам Тарасэвіча — даслоўна, другі Майк Джагэр.

Яшчэ толькі некалькі слоў ад дырэктара школы, героя падзеі ды мэра Супраслі і дзверы адкрываюцца. Калі большасць прысутных ужо з асалодай глядзяць таямніцу таямніц, я падыходжу да адпачываючага на нізенькай гімнастычнай лавачцы мастака.

Ну што ж, выпадае задаць празаічнае пытанне пра школьныя гады. Усё астатняе можна дачытаць у інтэрнэце.

— Пілі віно, там на горцы, і піва, — гаворыць мастак, — з дзевяцёх нас, хлопцаў, чатырох выкінулі за гарэлку. Гралі, гулялі, рысавалі.

На гэтым, у асноўным, наша размова канчаецца.

— З кожным гавару столькі, колькі магчыма з ім гаварыць, — прыгадваю яшчэ раз словы Тарасэвіча з яго інтэрв'ю з Арбітоўскім.

Але ў памяці сваіх аднакласнікаў запісаўся ён іншымі літарамі:

— Мы займаліся спортам, ігрой у музычным калектыве, гарэлкай і дзяўчатамі. Лявона бачылі толькі з нататнікам. Ён толькі рысаваў, заўсёды рысаваў, — кажуць яны.

Адчакаўшы, пакуль шматлікі народ у сціску насыціцца таямніцай таямніц, уваходжу ў выставачную залу і лёгка здзіўляюся. Я, так як і спадар Тарасэвіч, у дзяцінстве не расставалася з алоўкам і фарбкамі. Толькі пасля чамусьці папала не ў мастацкі, але ў медычны ліцэй. Мае юнацкія пейзажы не адступалі ўзроўнем ад тых, якія выйшлі з-пад рукі маладога Тарасэвіча. Прымаўка „не святыя гаршкі лепяць" тут як найбольш на месцы.

Далёка не кожны ў змозе раскрыць сябе настолькі глыбока, амаль да самых майтак, а можа і далей, так як яго стварыла маці-натура.

— Гэтыя, якія не дзеляцца сваёй творчасцю, ствараюць блакаду, ніколі гэтай творчасці не кранаюць. Гэта безупынны дыялог з гледачом, інакш абмен думкамі немагчымы, — сказаў Тарасэвіч Лукашу Арбітоўскаму.

— Цешуся, што не пасаромеўся і паказаў нам свае не надта ўдалыя працы, — тлумачыць мне Марта Мушынская-Юззфовіч — настаўніца супрасльскага ліцэя і сяброўка Тарасэвіча. — Гэта вельмі падбадзёрыць нашых вучняў. Шмат з іх малюе на вышэйшым узроўні, чым Тарасэвіч, будучы ў іх гадах. Зусім не здзіўляюся, што першапачаткова не прынялі яго ў Акадэмію мастацтваў. Гледзячы на гэтыя працы, прыкмячаю ўсё-такі ўплыў школьнай адукацыі, асабліва ў яго рысунках.

Тарасэвіч, у сваю чаргу, сцвярджае, што тут, у гэтым антымастацкім ліцэі, маляваць не вучылі і ўсяго прыйшлося дабівацца ўласнай, руплівай працай. Маляваў пасля ўрокаў, у хаце, у час шматлікіх падарожжаў па мастацкіх галерэях Польшчы.

— У асноўным чым менш спрыяльныя ўмовы для развіцця індывідуальнасці, якая падвяргаецца шматлікім канфрантацыям, тым часцей узрастаюць прыгажэйшыя кветкі і больш цікавыя людзі, — сказаў мастак у размове з Оляфам Цірутам для часопіса пра візуальную культуру „Графія".

У жніўні бягучага года на адкрыцці сваёй выставы „Святлом напісанае" ў Супрасльскай акадэміі сказаў:

— У школу я здаў як адзін з апошніх і адпаведна як гэтага няздольнага прызначылі мяне на ткацтва. Ці ведаеце, што гэта абазначае для 15-гадовага хлапчука тканне дзвюх нітак уніз і трох уверх?

Але мне здаецца, што ткацтва ў сучасным Тарасэвічу засталося шмат, асабліва жоўта-чырвона-зялёных палосак жыўцом перанесеных з вясковых спадніц ці капаў.

Рысаваў, рысаваў і дарысаваўся сусветнай славы.

— Ці Тарасэвіч увогуле ўмее маляваць? — запытала мяне апошнім часам спецыялістка па літаратуры.

Мабыць умее, але не хоча. На яго думку нашмат лягчэй намаляваць прыгожа, чым брыдка, таму сваім студэнтам у варшаўскай мастацкай акадэміі раіць маляваць брыдка. Здаецца, гэта своеасаблівая форма пошукаў іх індывідуальнасці — галоўнай мэты педагагічнай працы спадара прафесара.

Сур'ёзна падыходзячы да справы таленту мастака, спецыялісты па літаратуры і сабе аб'ясняю, што шматлікія ўзнагароды прызначаюць яму менавіта за паслядоўнае кіданне выкліку так традыцыйнаму разуменню мастацтва, як і ўсякім канвенцыям разумення мастацтва.

— Мастакі разбіваюць схемы. Калі б не было нас спераду, людзі не ведалі б, што там можна ўбачыць, — цытую выказванне самога Тарасэвіча.

З 1988 года выходзіць ён па-за канкрэтныя звароты да прадметаў (птушкі, пні дрэў) і ідзе ў напрамку чыста мастацкіх каштоўнасцей: колераў, іх ігры, фактуры.

Марыя Попжэнцка ў „55 скарбах Польшчы" выдадзеных „Аркадамі" піша:

„Jeśli przyjmiemy, a jestem o tym przekonana, że krajobrazy są skarbem narodowym, to wydaje mi się, że spośród dzisiejszych artystów polskich Tarasewicz jest najbliższy natury. Pokrywając farbą lub barwnym betonem ściany, słupy, chodniki, Tarasewicz pozostaje malarzem krajobrazu, który nas zewsząd otacza. Nie widzę drugiego artysty współczesnego, który by z taką konsekwencją pokazywał naturę jako cudowny, nieskrępowany żywioł. Jako nasz skarb".

Менавіта натура з'яўляецца пунктам сутыкнення яго сённяшняй творчасці і далёкага, супрасльскага мінулага.

Засталося яшчэ разгледзець сярэдзіну — працы перыяду навукі ў варшаўскай Акадэміі мастацтваў. Настаўніца Марта Мушыньская-Юззфовіч ужо правяла ўступныя размовы з прафесарам Лявонам Тарасэвічам.

— Гэта будзе вялікі скок у яго мастацкім узроўні, — кажа яна.

**Іаанна ЧАБАН**



Фота Міры ЛУКШЫ

## Стагадовая даўнасць

15 кастрычніка, у нядзелю, у Нараўцы адбылася праекцыя дакументальнага фільма «Бежанства 1915 года». Сабралася каля 50 гледачоў з Нараўкі і ваколіц. Людзі з цікавасцю глядзелі фільм, а потым гутарылі і ставілі пытанні рэжысёру Юрку Каліну. Большасць гледачоў згаджалася з высновай, што «бежанства» было непатрэбнае і што лепш зрабілі тыя сяляне, якія ў Расію не паехалі. Аднак трэба помніць, што нямецкія акупанты ў мясцовых сялян насільна адбіралі жывёлу і коней. Жыхары пратэставалі, але немцы, пагражаючы расстрэлам, прымушалі іх маўчаць. За адабраную жывёлу і коней акупанты не плацілі. Мясцовых сялян немцы прымушалі вазіць фураж для коней і снарады для войска. За адмову ад працы нямецкія салдаты збівалі насельніцтва прыкладамі.

Былі выпадкі, што нямецкія аэрапланы бамбілі абозы бежанцаў. Ад выбухаў скінутых бомбаў загінула многа людзей, у тым ліку жанчыны і дзеці. У ваколіцах Пінска лагер бежанцаў быў абстраляны артылерыйскімі снарадамі з удушлівымі газамі. Нямецкія акупанты абкладалі насельніцтва падаткамі і штрафавалі, здзекаваліся над людзьмі.

У час вайны працоўнаму люду ўсюды было цяжка.

## З Варшавы ў Альхоўку

Летам добра жыць у вёсцы каля лесу, дыхаць чыстым паветрам. Гэта зразумелі многія гарадскія пенсіянеры.

Юзік і Тэрэза з Варшавы купілі хатку з пляцом у Альхоўцы каля Нараўкі. Хатку яны прыгожа адрамантавалі і кожнае лета праводзяць у вёсцы на ўскраіне Белавежскай пушчы, здалёк ад варшаўскага шуму і сталічнай мітусні.

Летам яны збіраюць у лесе ягады і грыбы сабе і для сваіх варшаўскіх сяброў.

Юзік па прафесіі вайсковы інжынер-электрык. Ён умее наладзіць тэлевізар, радыёпрыёмнік ды іншыя электрапрыборы. Жыхарам Альхоўкі паслугі ён робіць бясплатна і людзі яму за гэта ўдзячны.

Я падружыўся з Юзікам і Тэрэзай, часта наведваю іх і заўсёды знаходзім супольныя тэмы для размовы. Іграем разам на акардэоне, напяваем папулярныя песні.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Восень над Семяноўкай

Прыйшла журботная восень. Амаль з усіх дрэў апала сёлетняе асабліва каляровае лісце. На двары пахаладзела. Дні сталі кароткімі а ночы доўгімі і цёмнымі. Пад вечар над Семяноўскім возерам у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета сцелецца густы белы туман.

Пакінулі возера і дзікія ставы на палянах у Белавежскай пушчы жураўлі (сёлета яны былі тут да канца кастрычніка). Не скачуць ужо жвавыя плiскі. Яны адляцелі на поўдзень і мы іх не ўбачым да наступнай вясны. На вадзе плаваюць качкі-крыжанкі, крахалі, чэрнеці і гагары. Прылятаюць драпежныя птахі — вандроўны сокал і арлан. Часамі ў ціхія асеннія доўгія вечары па возеры нясецца голас пугача.

Вада ў возеры пахаладзела. Плоткі, акуні і язі збіраюцца ў чародкі і шукаюць глыбейшых месцаў. Шчупак таксама падаецца ўглыб вадаёма. Мянтуз пакідае сваё летняе сховішча пад берагам і шукае іншага месца. Зараз рыбы ў возеры ўзмоцнена харчуюцца. Яны назапашваюць тлушч, які дапаможа ім перажыць зіму ў халоднай вадзе. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Вітаем з поспехам Аню Бяляўскую, лаўрэатку «Бардаўскай восені — 2017». Аня Бяляўская разам з Кацярынай Хмур атрымалі прыз Аб'яднання «Бельская каліцыя».

Папраўдзе поспех Ані нас не здзівіў, а толькі ўмацаваў у ранейшым меркаванні. Нядаўна, на старонках «Зоркі» мы прысвяцілі ёй артыкул «Аня Бяляўская — чарадзейка з гітарай». Яна выступіла з канцэртам на XXXI Сустрэчах «Зоркі».

На «Бардаўскай восені» Аня праспявала песню «Журналіст», на словы верша сваёй цёці Касі Бяляўскай. Музыка да «Журналіста» належыць Пятру Карпюку, музычнаму апекуну лаўрэаткі. Можна сказаць, што ўзнагароджаны твор поўнасцю пушчанскі і мясцовы, паколькі выканаўца, аўтары тэксту і музыкі — жыхары Нараўкі.

Такіх сюрпрызаў чакаем гадамі.

І можна сказаць, што пасля доўгага перапынку на сцэну вяртаюцца барды з Падляшша. Нас вельмі ўцешыў сёлетні поспех бяльшчанкі Касі Хмур, а таксама музычнае развіццё бельскай «Пэрцэпцыі» з Магдаленай Маліш. Апошні гурт выступіў у канцэрце зорак.

**(гак)**




## Падвей — злосны вецер

*(з беларускай міфалогіі)*

**Падвей** — гэта той дух, які круціцца ў ветры. Ён насылае на людзей асаблівую хваробу, якая таксама называецца падвеем. Нашы продкі верылі, што калі вецер з падвеем наляціць на чалавека, дык скруне яму галаву набок, адніме мову, або скруціць нагу ці руку. Таму трэба ратавацца ад падвею. Калі закруціцца падвей, у яго бок соваюць дулю. Злосны вецер гэтага не любіць. Ён прамчыць бокам і не закране чалавека.




## Экскурсія ў Гродна

У мінулым месяцы, разам з сяброўкамі я паехала на экскурсію ў Гродна. Паездку арганізавала нам цудоўная настаўніца беларускай мовы і наша выхавацелька Альжбета Рудкоўская. Хаця мы вырушылі вельмі рана, усе былі ў выдатным настроі. На экскурсію сабралася пяць вучняў і трох выпускнікоў маёй гімназіі, бацькі, супрацоўнікі і сябры школы. Наша група налічвала сорак чалавек.

Першым помнікам гісторыі, які мы пабачылі на сваім шляху, была Каложская царква з XII стагоддзя. Мы наведалі таксама Пакроўскі кафедральны сабор. Пасля схадзілі ў кафедральны касцёл св. Францішка Ксаверыя. Наведалі таксама Верхні замак і Ніжні замак Баторыя ды музей Алізы Ажэшкі. У дарозе на абед мы пабачылі пажарную вадакачку і сінагогу, а пасля стадыён. Мелі мы магчымасць прагуляцца па вуліцы Савецкай і зрабіць пакупкі.

З горадам знаёміў нас жыхар Гродна. Наш гід свабодна гаварыў на беларускай і польскай мовах. У сувязі з тым, што большасць нашай групы не разумела па-беларуску, ён шмат гісторый распавёў па-польску. Усім цікава было паслухаць пра пісьменніцу Алізу Ажэшка

Экскурсія мне вельмі спадабалася. Разам з сябрамі мы добра гулялі і шмат чаго даведаліся. Я спадзяюся, што яшчэ раз наведаю гэты горад.

**Клаўдзія ГАЛІНСКАЯ**
**Гімназія ў Беластоку**

## Лістапад

Абляцелі жалуды.
Дапякаюць халады.
Пад нагой лісцё шуршыць.
А навокал — ні душы.
У выгоністым бары,
У прыціхлым гушчары
То наперад, то назад
Ходзіць дзядзька Лістапад.
Адпачнуў бы ён крыху
Ў зацішку на імху,
Ды не грэе болей дух
З лісця зроблены кажух.

**Алег МІНКІН**

## Завіруха

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
І спеў ліецца ўсё мацней, —
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.

**Максім БАГДАНОВІЧ**



* * *

Аджылі свой век:
ліпы, клёны,
чалавек...
Адгалёкалі ўсе птушкі
у небе клін
скруціўся стружкай.
Я глядзеў у неба тонкае
кліну птушак услед.
Забіралі штосьці цёплае:
лета,
колер,
свет.

**Алесь БАРСКІ**






# ПАШТОЎКІ АД ЛЯВОНА

Маем для вас прыемную навіну. Вось, грамадска-культурная кампанія «БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ» выпусціла серыю паштовак, на якіх адлюстраваны грамадскія святы. Апрача добра вядомых, такіх як «Дзень настаўніка» ці «Свята жанчын», аўтар прапануе яшчэ «Дзень вынаходніка і рацыяналізатара», «Дзень страхавых работнікаў» ці «Дзень работнікаў фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прамысловасці». На карцінках амаль усе сучасныя прафесіі. Невыпадкова, паколькі паштоўкі могуць паслужыць як віншавальныя карткі бацькам, сваякам, суседзям, настаўнікам, знаёмым. Усе, хто атрымаюць такі падарак, заўсміхнуцца!

На паштоўках жартоўныя малюнкі, якія прыдумаў сам Лявон Вольскі. Усе ведаем яго шэдэўр «Тры чарапахі» — час пазнаць мастацкі талент Лявона Вольскага.

Паштоўкі з беларускімі назвамі грамадскіх святаў і гумарыстычнымі малюнкамі можна выйграць у нашых конкурсах. Не прапусціце нагоды!

**(зорка)**

Магдаліна ДРАЗДОЎСКАЯ
КШ у Міхалове

## Вецер

Халодны вецер стукае ў акно.
Чаго ён хоча?
Толькі аднаго...
Лісты сарваць,
Чалавека ў цёплае ўбраць.
Зіма набліжаецца.
Ніхто не ўсміхаецца?

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Чарапаха і конь

Чарапаха выклікала каня на выперадкі. У назначаны дзень спаборніцтва конь нічога не рабіў, ад рання ён радасна іржаў і абвяшчаў сваю перамогу. Чарапаха, як кожны дзень, практыкавалася ў хадзе і абуджала ў сабе рэзкасць.

Наблізіўся час гонкі. На стадыёне выседжвала публіка. Конь і чарапаха стаялі на лініі і чакалі каманды «старт»! Урэшце падалі ім знак. Конь ад ляноты і доўгага святкавання не даў рады зрушыцца з месца, ён адчуваў сябе быццам спутаны. Тым часам чарапаха прайшла назначаны адрэзак хутчэй, чым ад яе чакалі, і стала пераможніцай.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Тамаш ХАРКЕВІЧ
Новая Лука, ПШ у Нараўцы

## Люблю

„Люблю наш край,
старонку гэту"
Канстанцыя Буйло так пяяла,
А я люблю сваю мясціну,
У маім сэрцы яна адна.

Я тут вучыўся першы словы,
На роднай мове вымаўляць,
Я тут вучыўся цяжкай працы,
Якую трэба шанаваць.

Мае бацькі мне ўсё гавораць:
— Вучыся ды шануй людзей.
А я бяру гэтыя словы
У сваё сэрца ўсё мацней.

Паволі я стаю дарослым,
І многа стаў я ўсведамляць,
І знаю, што заўсёды буду,
Бацькоў і мову шанаваць.

## УВАГА КОНКУРС! № 46-17

**Яно слізгае ў руках,**
**Мае асаблівы пах.**
**У ваду як пападае,**
**Паступова прападае.**
**М...**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 19 лістапада 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 43: Кіно.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага, Аляксандра Бакун, Аляксандра Іванюк, Аляксандра Аніськевіч з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 46-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 42-17:** Кабарэ, мапа, кпіна, яма, справа, шал, краса, прынц, брыз, Об, рап, пляма, пасаг, іл, нітачка, акт. Мяшок, апал, брат, праса, прыз, экран, пасцель, піва, яна, комік, балт.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Марыюш Радзецкі, Аляксандра Якімюк, Віктар Лінк, Матвей Зыскоўскі** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Магдалена Якубюк, Дам'ян Карнілюк, Ася Нікіцюк** і **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

Chór
Wóz
Świt
Smutek
Gęsi
Dźwięk
Ziele
Biskup
Rozum
Bierz
Las
Mysz
Nur
Halo!
Vip
Malinowy
Ewidencja
Cykl
Europa

# Яўрэі ў Гайнаўцы і на Беласточчыне

**«Музей на калёсах» — мабільная выстава Музея гісторыі польскіх яўрэяў «Полін» у Варшаве з 19 па 21 кастрычніка наведала Гайнаўку.** Яе павільён, пастаўлены перад будынкам гайнаўскіх адміністрацыйных устаноў, наведалі вучні мясцовых школ і дарослыя жыхары горада. У Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы 20 кастрычніка адбылася сустрэча, прысвечаная гісторыі яўрэяў у Польшчы. Дырэктар бібліятэкі Ала Грыц успомніла гайнаўскіх яўрэяў і раздала сабраным буклеты «Аб яўрэйскай грамадскасці ў Гайнаўцы». У малой галерэі бібліятэкі можна было паглядзець выставу Гжэгажа Пятрашка «Засталіся толькі мацэвы», які падчас спаткання выступіў з мультымедыйнай прэзентацыяй сімволікі мацэваў на жыдоўскіх могільніках. Іаанна Сапяжынская выступіла з дакладам «SHOAH — знішчэнне жыдоўскага народа ў Беластоцкім ваяводстве», які папоўніла мультымедыйнай прэзентацыяй. У гэтым годзе адзначаецца 75 гадавіна канчатковага знішчэння часткі яўрэяў Беласточчыны. 3 лістапада такая ўрачыстасць адбылася ў Сінагозе ў Орлі, якую «Музей на калёсах» наведаў раней.



Іаанна Сапяжынская выступіла з дакладам «SHOAH – знішчэнне жыдоўскага народа ў беластоцкім ваяводстве»



Дырэктар бібліятэкі Ала Грыц і Гжэгаж Пятрашак

— Мабільная выстава «Музей на калёсах» выклікала ў гайнавян зацікаўленасць гісторыяй жыдоў. Экспазіцыя гасцявала ў Гайнаўцы толькі тры дні, але паспелі яе наведаць дарослыя і вучні школ горада і павета. «Музей на калёсах» гэта сучасная прапанова экспазіцыі, спалучаная з багатай адукацыйнай праграмай, якая спасылаецца на тысячагадовую гісторыю жыдоў у Польшчы. Наведвальнікі музейнага павільёна моцна цікавіліся інтэрактыўнай картай Гайнаўкі, на якой памечаны яўрэйскія будынкі міжваеннага перыяду, яўрэйскі алфавіт, слоўнік імён, — праінфармавала дырэктар Гарадской бібліятэкі ў Гайнаўцы **Ала Грыц**, каардынатар праекта прэзентавання ў Гайнаўцы гісторыі яўрэяў.

Я наведаў «Музей на калёсах» пазней і спаткаў там дарослых жыхароў Гайнаўкі. Працаўніцы Музея гісторыі польскіх яўрэяў «Полін» у Варшаве Катажына Янкоўская і Катажына Неўчас распавялі пра месцы пражывання гайнаўскіх жыдоў, паказалі іх на інтэрактыўнай карце Гайнаўкі, на якой памечаны, між іншым, драўляная сінагога і дом рабіна. Прэзентаваўся прыкладны выгляд мясцовасці міжваеннага перыяду на Беласточчыне з касцёлам, царквой і сінагогай. Мабільная выстава інфармуе аб жыцці яўрэяў у Гайнаўцы і іншых мясцовасцях. У рамках праекта «Музей на калёсах» працаўнікі Музея гісторыі польскіх яўрэяў «Полін» у Варшаве наведваюць тыя мясцовасці ў Польшчы, а ў гэтым ліку і на Падляшшы, дзе кампактна пражывалі яўрэі і знаёмяць мясцовае насельніцтва з гісторыяй яўрэяў у Польшчы і ў наведаных мясцовасцях.



Катажына Янкоўская і Катажына Неўчас у павільёне «Музея на калёсах»

— Мой дзядуля з сям'ёй жыў у Гайнаўцы ўжо ў міжваенны перыяд. Збудаваў дом непадалёк ад вуліцы 3-га Мая, які часткова наймала яўрэйская сям'я Шатко. Калі немцы выганялі жыдоў у гета ў Пружанах, то спадар Шатко, ведаючы пра лёс яўрэяў пад нямецкай акупацыяй, сказаў, што мой дзядуля ўжо яго не ўбачыць. Уся сям'я Шатко, разам з прыгожымі дочкамі, загінула хутчэй за ўсё ў Трэблінцы. За здымкамі, якія засталіся па сям'і Шатко, прыязджаў іх сваяк. Аднак захаваўся ў нас адзін здымак сям'і Шатко і аповед пра іх трагічны лёс, які спаткаў таксама іншых яўрэяў даваеннай Гайнаўкі, — распавядаў сабраным у музейным павільёне спадар Яраслаў, жыхар Гайнаўкі.

У Гарадской публічнай бібліятэцы 20 кастрычніка адбылася сустрэча, прысвечаная гісторыі яўрэяў. Дырэктар бібліятэкі Ала Грыц прывітала сабраных, сярод якіх былі намеснік гайнаўскага старасты Ядвіга Дамброўская, гарадскія радныя Януш Пух і Славамір Кулік, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і дырэктар Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы Аліна Пятрашак. Дырэктар Ала Грыц успомніла гайнаўскіх яўрэяў і раздала публіцы буклеты «Аб яўрэйскай грамадскасці ў Гайнаўцы», якіх з'яўляецца аўтарам.

— Гайнаўская гміна была адной з наймалодшых яўрэйскіх гмін на Беласточчыне. Паасобныя жыды пачалі пасяляцца тут разам з будовай прыдарожных корчмаў. Ужо ў 1695 годзе побач гасцінца і каля Гайнаўскай аховы паявілася карчма... Яўрэі ў большай колькасці сталі пасяляцца (на месцы сённяшняй Гайнаўкі, — А. М.) у канцы XIX стагоддзя. Прыбыццё жыдоў было паслядоўнасцю развіцця дрэваапрацоўчай прамысловасці і доступу да чыгуначнага пуці з 1906 года. Жыдоўская гміна завязалася яшчэ перад Першай сусветнай вайной... Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў Гайнаўцы жыло 17 тысяч чалавек, у тым ліку 600 яўрэяў. Дамы іх былі ў галоўным па вуліцах Сцяпана Баторыя, Польнай (цяпер Грунвальдзкая), Тарговай (цяпер ксяндза Верабея), Агароднай (цяпер Сям'і Касідлаў), — напісала дырэктар Ала Грыц у выдадзеным бібліятэкай буклеце «Аб яўрэйскай грамадскасці ў Гайнаўцы». Паасобныя жыдоўскія сем'і жылі па цяперашніх гайнаўскіх вуліцах Ліпавай, 11 Лістапада, Варшаўскай. Яўрэі ў Гайнаўцы ў асноўным займаліся гандлем і паслугамі. Аднак былі яны таксама ўласнікамі дрэваапрацоўчых і будаўнічых прадпрыемстваў, ці прадпрыемстваў перапрацоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў. Жыды мелі многа магазінаў з таварамі рознага асартыменту, школу, лазню, займаліся гандлем па навакольных мясцовасцях, працавалі ў адміністрацыі, прамысловых прадпрыемствах і ахове здароўя. Спачатку ў гайнаўскіх жыдоў быў малітоўны дом, а ў 1928 годзе была збудавана драўляная сінагога. Яўрэяў з Гайнаўкі хавалі на жыдоўскіх могільніках у Нараўцы і Орлі. 6 жніўня 1941 года пачалася вывазка яўрэяў з Гайнаўкі ў гета ў Пружанах, якое было ліквідаванае ў 1943 годзе. Адсюль гайнаўскія жыды трапілі ў канцэнтрацыйны лагер у Трэблінцы.

— У даваеннай Польшчы жыло многа яўрэяў. У Варшаве яўрэі складалі 29% усіх жыхароў, у Беластоку — 45%, у Любліне — 35%, у Лодзі 33%, у Пінску — 75%, у Брэсце — 52%, — сказаў у сваім дакладзе **Гжэгаж Пятрашак**, выпускнік Політэхнічных інстытутаў у Любліне і Беластоку, а зараз настаўнік інфарматыкі ў Комплексе прафесійных школ імя Тадэвуша Касцюшкі ў Гайнаўцы. У час мультымедыйнай прэзентацыі распавёў ён пра яўрэйскія могільнікі — кіркуты і патлумачыў сімволіку вертыкальных магільных пліт — мацэваў, якія прэзентуюцца ў бібліятэцы на фотавыставе «Засталіся толькі мацэвы». Фатаграфіі прадстаўляюць мацэвы на падляшскіх кіркутах у Крынках, Гарадку, Ялоўцы, Орлі, Нараўцы, Нарве, Кляшчэлях, Мілейчычах, Тыкоціне, Заблудаве ды ў іншых мясцовасцях Польшчы і за нашай усходняй мяжой. Сімволіка на мацэвах звяртаецца да біблейскіх сюжэтаў, матываў расліннасці, жывёл, наваколля, у якім жылі яўрэі і многіх іншых тэм.

**Іаанна Сапяжынская**, выпускніца Гайнаўскага белліцэя, а зараз настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы, цікавіцца мясцовай гісторыяй. Свае працы публікавала, між іншым, у выданні «Białoruskie Zeszyty Historyczne / Беларускі гістарычны зборнік», фотаальбоме «Вітава ў старой фатаграфіі», выступала на Гайнаўшчыне з дакладамі, між іншым, на тэму бежанства і Старакорнінскай іконы Божай Маці. Здаўна цікавіцца гісторыяй яўрэяў на Беласточчыне. Плёнам гэтай зацікаўленасці стаў даклад «SHOAH — знішчэнне жыдоўскага народа ў Беластоцкім ваяводстве». Іаанна Сапежынская распавяла пра арганізаваныя немцамі гета, пра колькасць сабраных у іх жыдоў і пра іх пазнейшы лёс, які найчасцей канчаўся вывазкай у канцэнтрацыйныя лагеры або смерцю на месцы ў гета.

— Халакост жыдоўскага народа на Беласточчыне, у тым ліку і на Гайнаўшчыне, пачаўся пасля 22 чэрвеня 1941 года. Гета немцы арганізавалі ў мясцовасцях, дзе пражывала больш яўрэяў. Канфіскавалі ў іх маёмасць. Жыды ў гета маглі ўзяць з сабой толькі самыя неабходныя для жыцця рэчы. Пазней меншыя гета ліквідавалі і жыдоў перавозілі да большых гета, а яшчэ пазней у Трэблінку і іншыя канцэнтрацыйныя лагеры. Самымі вялікімі гета на Беласточчыне былі гета ў Беластоку і Бельску-Падляшскім, — сказала Іаанна Сапяжынская і пералічвала даты заснавання і ліквідацыі гета ў паасобных мясцовасцях нашага рэгіёна. Найчасцей гета ўзнікалі ў 1941 або 1942 гадах і былі ліквідаваныя ў 1942 або1943 гадах. У гета ў Беластоку жыло звыш 50 тысяч яўрэяў, у Бельску-Падляшскім — каля 15 тысяч, у Сямятычах — 6 тысяч, Крынках — 6 тысяч, Браньску — 3 тысячы, Орлі — 2 тысячы, Заблудаве — 1400, Мілейчычах — 1250, Васількаве — звыш 1 тысячы, Кляшчэлях — 1 тысяча, Нарве — 600. Былі таксама меншыя гета на Беласточчыне. Звыш 600 гайнаўскіх яўрэяў у жніўні 1941 года трапілі ў гета ў Пружанах, адкуль у 1943 годзе былі перавезены ў канцэнтрацыйны лагер у Трэблінцы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# З Новага Свету



Сушыльня тытуню ў Ямінах

З Краснага Бору, пра які нядаўна тут ішла гаворка, у Штабін недалёка, ды і ў іх сходнае мінулае. Раслі гэтыя мясцовасці ў час Храптовічаў; пра іх род было тут некалькі тыдняў таму. Ужо ў XVI стагоддзі Адам Храптовіч узводзіць у Асінках царкоўку, якая ў наступным стагоддзі стала каталіцкай капліцай. У чарговым стагоддзі мясцовасць мяняе назву з ранейшай Асінкі на цяперашнюю Штабін. *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага*: „Dobra te (z Krasnoborem) posiadł na początku obecnego stulecia Karol hr. Brzostowski, kapitan wojsk pol., żonaty z Ewą Chreptowiczówną, która wzniosła tu w r. 1804 kościółek drewniany p. w. św. Jakuba. W r. 1818 hr. Brzostowski zniósłszy dwie dymarki, istniejące w Janówku i Lebiedzinie, wystawił w Sz. piec do wytapiania rudy łącznej wydobywanej z bagien nad Biebrzą, a w r. 1830 nowy wielki piec, którego miechy poruszała machina parowa. Zakład ten produkował rocznie około 4000 centn. żelaza (głównie naczyń kuchennych). Istniały tu także tokarnia, forniernia, zakład stolarski, kotlarnia i kuźnia. Fabryka ta dostarczała odlewów dla szluz przy budującym się Kanale Augustowskim. W r. 1820 Brzostowski zniósł w całych swoich dobrach pańszczyznę i pozaprowadzał szkółki z nauką obowiązkową”. Немалы быў гэта завод, які ў год пастаўляў чатырыста тон жалезных вырабаў з мясцовай руды. Зараз гэта толькі цікавы ўспамін, але ж унёсак у навакольны краявід — Аўгустаўскі канал — астаўся.

Са Штабіна адпраўляюся ў Яміны, якія свой пачатак вядуць ад валочнай памеры каралевы Боны. Парафіяльны даведнік: „Nazwa Jaminy (Jamyny) wywodzi się z grupy języków bałtyjskich, do jakich zaliczał się także jęz. pruski. Jak podają źródła historyczne, znana jest, od co najmniej 1494 r. i wywodzi się od słów joti-minti, co może oznaczać jechać i myśleć, wspominać”; задумаўшыся ў час язды можна і такое прыдумаць. Вельмі цікавая даведка, якую *нарочно не придумаешь*, бо ж відавочнай здаецца этымалогія назвы мясцовасці ад звычайнай ямы. Зыгмунт Глогер: „Od czasów najdawniejszych wilcze doły nazywano „jamami”. Wilczodół była to jama zwykle „na dwa chłopy” głęboka, przykryta lekkim pomostem z drążków i gałęzi, na których środku przywiązywano żywe prosię, jagnię, lub kawał cuchnącej padliny. Wilk rzucał się na zdobycz i zapadał do jamy. Ks. Kluk pisze, że „jamy wilcze cembrują się dylami sosnowymi”, żeby zwierz wydostać się nie mógł. Na Podlasiu krążyła dykteryjka, że gdy raz gromada wiejska drobnej szlachty, schwytawszy wilka, wielkiego szkodnika, radziła nad wilczodołem, w jaki sposób pomścić na nim najokrutniej swoje krzywdy, jeden zagrodowiec, który miał wieczne piekło w domu od żony sekutnicy, zawołał, wyrokując: „Ożenić go, ożenić!”. А ваўкоў жа ў навакольных пушчах была даўней процьма.

У даведніках пра Яміны згадваецца тамашні касцёл; і цалкам слушна, бо гэта не толькі адметнае збудаванне, але і цэнтр традыцыйнага грамадскага жыцця. Першы касцёл у Ямінах быў пабудаваны ў 1755 годзе, але згарэў ён 34 гады пазней. На яго месцы была ўзведзена драўляная капліца пад саламянай страхой. А ў 1849 годзе быў тут пастаўлены цяперашні касцёл з драўніны ад ранейшага касцёла ў Агуставе. Парафіяльны даведнік: „Parafia Jaminy do 1795 r. podlegała dekanatowi grodzieńskiemu, diecezji Wileńskiej. Od 16 marca 1799 przypisana została do diecezji Wigry, następnie od 1818 roku do Augustowa, tzw. diecezji Sejneńskiej. W okresie międzywojennym, od 1925 przypisano ją do diecezji Łomżyńskiej. Od 1992 roku parafia Jaminy przynależy do diecezji Ełckiej”. Гэтая кароткая цытата здаецца быць тым ядром усёй нашай навакольнай гісторыі з яе пастаяннай непастаяннасцю...

Аднак у Ямінах кідаюцца ў вочы таксама іншыя збудаванні, нетыповыя ў краявідзе поўдня Беласточчыны. Гэта сушыльні тытунёвага лістоўя. У Воўкушы, што за Ліпскам, яны велічыні звычайнага абарога, аднак у Ямінах некаторыя з іх велічыні клуні, ці — як каля Дубровы гаворыцца — гумна. Гэтыя збудаванні зараз аджываюць свой век, але ж такія вялікія аб’екты будаваліся ў час тамашняга росквіту тытунёвай прамысловасці. Ужо ў 1861 годзе ў Гродне паўстае завод тытунёвых вырабаў, які ў канцы XIX стагоддзя даваў працу паўтары тысячы рабочых, а яго вырабы дабіваліся прэстыжных вылучэнняў па ўсім свеце; сыравіну для яго вырошчвалі, між іншым, у Аўгустаўскім і Ваўкавыскім паветах. Ну і пастаўляліся тыя вырабы ва ўсю Расійскую Імперыю, а ў прыватнасці ў царскую армію. У міжваенны час гэты размах значна паменшаў, а пасля Другой сусветнай вайны Гродна апынулася за граніцай. У 1951 годзе ў Аўгуставе паўстае свая тытунёвая фабрыка, якая ў 1990-х гадах трапляе ў склад брытанска-амерыканскага канцэрна. Аднак вырошчванне якаснага тытуню патрабуе цяплейшага чым у нас клімату, таму яго сушыльні ў нас становяцца адно ландшафтнымі памяткамі. А з тытунёвай сыравінай, так як і з усім — 40% яе сусветнага аб’ёму вырошчваецца ў Кітаі.

Не было б у Ямінах гэтых цяслярскіх твораў, калі б у 1492 годзе Хрыстафор Калумб не звалачыўся ў Амерыку. Гэта ён і ягоныя паслядоўнікі прывезлі з Новага Свету ў Стары процьму невядомай у нас да таго флоры, у тым ліку і розныя разнавіднасці тытуню. Зыгмунт Глогер: „Polacy przejęli palenie tytuniu od Turków, równie jak wyrazy: tytuń, kapciuch, lulka, cybuch, stambułka, zażywanie zaś tabaki wzięli od Niemców i Francuzów”. А ў Турцыю ён, верагодна, быў завезены суайчыннікамі Калумба, італьянскімі камерсантамі. З Турцыі ён трапіў і ў Расію, хаця тамашнія крыніцы падаюць, што трапіў ён туды з Захаду, завезены англійскімі купцамі ў час Івага Грознага. Супраць курэнню выступала Царква: „Употребление табака считалось смертным грехом, ведь дым табачный идёт от адского пламени, а сам процесс — это воскурение сатане, ритуал, совершать который могут только богоотступники”. І далей: „Табак оказался под запретом. Нарушителям пощады не было, особенно после пожара, случившегося в Москве по вине курильщика в 1634-м году. При Михаиле Фёдоровиче курение считалось тяжёлым преступлением, наказание за которое — смертная казнь”. Так было да часу цара Пятра, які сам стаў у Нідэрландах курцом; у ягоны час тытунь стаў на легальнае становішча. Імператрыца ж Кацярына сама шмат курыла.

Заўзятым курцом быў Сталін і гэта ён асабіста зацвярджаў дызайны вядучых савецкіх папяросных упаковак, між іншым „Беламорканала” ці „Казбека”; апошні дызайн, вершніка на фоне гары, нагадваў яму яго горскую радзіму; „Папиросы «Герцеговина флор» изготовляли по специальному заказу для самого Сталина. Изготовителем являлась фабрика «Петро», где работала закрытая специальная лаборатория. Сталин разламывал папиросы и набивал их табаком свою трубку”. У ліку заўзятых курцоў былі і партнёры Сталіна па новым перападзеле свету — Франклін Рузвельт і Уінстан Чэрчыль. Апошні смактаў сігары, а саўдаўскаму каралю быў прызнаўся: „Мой жыццёвы дэвіз заключаецца ў сакральным рытуале курыць сігары і піць алкаголь да, пасля, а калі трэба то і ў часе ўсіх харчаванняў ды ў перапынках паміж імі”. Чэрчыль пражыў 90 гадоў... Зусім іншым быў Адольф Гітлер, які не піў, не курыў, пазбягаў спажывання мяса ды ўвёў тыя меры супраць курэння, якія сёння ўводзяцца прынамсі ў нашай цывілізацыйнай прасторы. А ў Польшчы ў сталінскі і паслясталінскі час найбольш папулярнымі былі папяросы „Sport”...

Некалькі гадоў таму прайшоўся я па Ямінах, адкуль адправіўся ў бок Далістова, хаця вельмі карцела мяне заглянуць у Яглова. Аднак тады пабаяўся, апасаючыся, што не прайду адтуль у напрамку Карповічаў і Сухаволі. Цяпер жа, у сухое надвор’е і карыстаючыся байкам, рашыў я падацца ў тую незвычайную вёску, якая з усіх бакоў абліта водамі. З боку Аўгустава вядзе ў Яглова асфальтоўка, па салідным мосце з крыгаломамі на Бобры. Сама вёска быццам закрыта з боку загуменнай вуліцы, таму не ўдалося мне заглянуць на яе выхад на рэчку. За вёскай стаіць невялікая капліца.

Вёска была заснавана, як падаюць гісторыкі, ужо ў XVI стагоддзі і была яна першай у наваколлі; суседнія мясцовасці былі заснаваны пазней. Даведнік Штабінскай гміны пра Яглова: „Najstarsza wieś położona w Puszczy Jaminy. Pomimo że położona wśród niedostępnych mokradeł dzięki gospodarności dzierżawców i pracowitości mieszkańców ciągle się rozwijała i bogaciła. Znajduje się tutaj drewniana kaplica, której fundatorem był Witold Ostrowski, ksiądz z parafii Chodorówka”. Інтэрнэтны даведнік: „Nadmienić należy, że przez wieś przebiegała granica pomiędzy ruskim a mazurskim obszarem językowym w związku z czym jest to miejsce ciekawe ze względów etnograficznych. W środku wsi znajduje się urokliwa, zadbana drewniana Kaplica p.w. Matki Bożej Królowej Pokoju z 1943 roku”. Яглова да 1954 года было ў гміне Сухаволя Сакольскага павета, пазней было пераведзена ў Аўгустаўскі павет, а прычынай таму былі камунікацыйныя цяжкасці. Вёска належыць надалей парафіі ў Сухаволі, а калісь, калі не было такіх як сёння дарог, пакойнікаў з Яглова вазілі на сухавольскія могілкі на лодках.

Зараз з Яглова дарога ў Карповічы і ў Сухаволю ёсць. Гэта грунтавая дарога з сапёрскім мостам на Бярозаўцы; гэтаю дарогаю можна праехаць на машыне ў сухое надвор’е. Магчыма, што ў паўнаводдзе яна неадольная і ў Сухаволю трэба падавацца цераз Яміны і Штабін. Байкам, нават у сухую пару, прыйшлося мне некалькі адрэзкаў прайсціся пяшком, але гэта было нават карысна, бо можна было палюбавацца незвычайным тамашнім краявідам той „польскай Амазоніі”, дзе яе ядро — у трохвугольніку, які ствараюць Бобра і апошнія кіламетры Бярозаўкі.

Тэрмін Амазонія — таксама завезены з Новага Свету...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Каплічка ў Яглове

# Засталіся адно ўспаміны (26)

У народзе кажуць: «Каб пазнаць чалавека, трэба з'есці з ім мяшок солі». Мяшка солі, вядома, не ўдасца з'есці, ды і чалавека таксама пазнаць немагчыма. Так было са мною. Мае кампаньёны па брыгадзе — шафёр Уладэк Скепка ды кінамеханік Алік Чарнянін, калі ў Ваяводскім праўленні кіно рэкамендавалі мне пасаду кіраўніка кінабрыгады «ВR-9» у 1962 годзе, здаваліся быць спелымі і талковымі мужыкамі. А што зрабілі? Не мінуў год супольнай працы, як сталі рабіць такія паскудзі, што нават у сне не прысніліся. Да гэтага часу не ведаю, хто быў ініцыятарам задумы і чым кіраваўся. Алік Чарнянін даўно не жыве — няхай зямля будзе яму пухам. З шафёрам Скепкам прыйшлося раз спаткацца ў найбольш нечаканым часе пасля таго, калі нашы дарогі разышліся. Было гэта ў 1989 годзе, калі я старэйшую дачку выдаваў замуж. Тады я працаваў на чыгуначнай станцыі ў Чаромсе, а Скепка — шафёрам у Каапературе інвалідаў у Гайнаўцы. І прыйшлося яму везці вясельнікаў маладога (Рошчанкі з Паграбоў) да нас у Чаромху. Калі пачалася гасціна ў святліцы пажарнікаў у насычальні ў Чаромсе, я пайшоў запрасіць шафёра, які прывёз гасцей маладога. І быў ашарашаны неспадзяванкай... убачыўшы Уладэка Скепку, даўнейшага сябрука з кінаперасоўкі. Быццам бы нічога не здарылася, папрасіў яго на вяселле. Яму стала няёмка. Першапачаткова аднекваўся, гаварыў, што шафёру няёмка сядзець у кампаніі, але ў канцы зайшоў на некалькі мінут на пачастунак і неўзабаве выйшаў. Да часу ад'езду сядзеў у машыне. Так гэта ў жыцці бывае...

А вяртаючыся да справы, дык я не памятаю, колькі часу доўжыўся разлад паміж намі. Але ўсё ж такі трэба было паміріцца і пачаць нармальнае жыццё. Трапілася к гэтаму нагода. Уладэк Скепка ў найбольш неспадзяваным часе дведаўся, што будзе... бацькам. Моцна перажываў. У яго былі ўжо тры дачкі. А што калі чацвёртая народзіцца? Як тады Аліку ў вочы гляне? Ганьба, кампраметацыя! Мянушка «дамскі кравец» застанецца навечна.

Было гэта ў пачатках лютага, толькі не памятаю дакладна якога года — 1965 або 1966. Стаялі мы з кінаперасоўкай у Саках. А тут Валодзю Скепку нарадзіўся... сын. Радасць у сям'і небывалая. Урэшце сын! Але з'явілася праблема — заснежаны дарогі. Як дабрацца ў Кляшчэлі ў касцёл, каб ахрысціць «младзенца»?

— А мо б так кінаперасоўкай? — запытаў Уладэк.

Я не пярэчыў... Сам Скепка завёз у Кляшчэлі сына да хрышчэння. Назвалі Генрыкам. Калі мы з Алікам арганізавалі вячэрні сеанс у Саках, дык Дубінскія адзначалі хрысціны ўнука Генрыка. А пасля і мы з кінамеханікам Чарнянінам далучыліся да кампаніі. З таго часу я быў госцем у Дубінскіх. Валодзіна жонка, Зося, мела малодшую сястру. Вучылася яна ў Гайнаўцы, як не памыляюся, у ліцэі. У летнія канікулы, калі заязджалі мы з кінаперасоўкай у Сакі, дык пасля вячэрніх сеансаў Валодзя заязджаў пад дом на калёнію, а мы, маладыя, у вясёлай кампаніі на лавачцы каля плота раскашаваліся маладосцю, марылі аб любві і слухалі... кваканне жаб, якое неслася з суседніх сенажацей. Ці можна пра гэта забыць?

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# Цяжка дажываць у адзіноцтве

Васілю Верамчуку дзевяноста чатыры гады. Жыве на хутары ў Вульцы-Тэрахоўскай. Годзікаў восем таму часта мы з дзядзькам Васілём сустракаліся ў цягніку ў Гайнаўку. Ехаў ён зранку ў горад і абедним цягніком вяртаўся дамоў. У хаце не заседзеўся, шукаў кампанію. У Гайнаўцы заязджаў да адной удавіцы. Як казаў мне, шукаў братняй душы, каб паразмаўляць. Пад канец кастрычніка, калі я стаяў побач брамы пры вуліцы, прыкмеціў старэчу на роварах. Не пазнаў зразу, але калі пачаў насупраць мяне спыняцца, дык угледзеў добра знаёмага дзядзьку Васіля.

— Што, блукаеце па Кузаве? — пытаю.

— Ад кабеткі еду, — з усмешкай гаворыць дзядок і прыбаўляе: — Такой ад нас, з Вулькі-Тэрахоўскай. Ну, ведаеш, адзінокай... Запрашае заўжды заехаць, бо хоча з кімсьці пагаварыць. Пра сваіх распытаць...

— А ў Гайнаўку не заязджаеце ўжо? — цікаўлюся.

— Не, няма ўжо да каго ехаць. Ды і цяжкавата ў Гайнаўку дабірацца з роварам.

— А штосьці даўно цябе не бачыў. Як са здароўем?

— Ногі баляць. Два гады з хаты не выходжу, адно да лекараў — заяўляю.

— Таксама блукаю ў адзіноцтве паміж чатырма сценамі. Ніхто не заглядае...

Пастаялі яшчэ крышачку. Дзядзька Васіль успомніў мінулае, як у Нямеччыне ў баўэра працаваў, затым як пасля вайны саветы ў Саюз забралі, на японскі фронт і пра ссылку ў Сібір. На канец успомніў пра «бацьку» Сталіна, як «чыстку» ў Расеі рабіў:

— Цярпеў народ, ой цярпеў. І я разам...

Пры развітанні сунуў руку ў кішэню і выняў дзве «слівкі» — шакаладныя цукеркі.

— То ад мяне гасцінец, — сказаў, паціскаючы руку.

Уладзімір СІДАРУК



Нараджэнне новага чалавека заўсёды прыемная навіна. Асабліва яна прыемная для тых, хто наўпрост датычны да такой падзеі, і для іх бліжэйшага акружэння. Каб зрабіць з такой падзеі свята, вынаходлівыя прадпрымальнікі прапануюць звярнуцца да іх. А яны ўжо, вядома, за грошы радасна ўсхваляванай радні нованароджанага, пастараюцца аформіць цэлы працэс у нешта, што нагадвае невялікі карнавал. Фірм, якія аказваюць паслугі па святочнай сустрэчы з радзільні, у кожнай краіне досыць, але на абшарах інтэрнэту пакуль вядома пра адну, якая прапануе гэта з нацыянальным беларускім ухілам. І доўгая яе назва цалкам раскрывае сутнасць паслугі — „Арганізацыя сустрэчы новага беларуса з радзільні ў этна стылі". Віртуальнае прадстаўніцтва сустракаючай па-беларуску з радзільні фірмы месціцца па адрасе **http://vroddom-belarus.by.**

Калі цікаўны карыстальнік выйдзе на дадзены сайт, то перад яго вачыма адкрыецца стракатае, зіхацячае радасцю выяўленне з фотаздымкамі людзей, якія ўсміхаюцца. „Дружа! Мы табе дапаможам!" — запэўніваюць уладальнікі сайта праз фразу, якая нібыта крычыць аб гэтым. „Прыгожы выпіс з радзільні па-беларуску", — абазначаюць камерсанты свае паслугі.

Сайт сустрэчы з радзільні пабудаваны выключна па-сучаснаму. У ім няма традыцыйнага раней дзялення на часткі, а ўсе выйсці на рубрыкі месцяцца ўверсе цэлага выяўлення. Праўда, асобнымі рубрыкамі іх назваць складана, бо, калі клікнуць на кожнае з выйсцяў, то выяўленне папросту рушыць уверх, адкрываючы размешчаныя ніжэй тэкст і аздабленні.

Сайт мае дзве моўныя версіі — беларускую і рускую. Прычым беларускія словы такія, якія рэдка сустрэнеш у літаратурнай мове, бо яны хутчэй пparticular паточныя. Так, на сайце замест „немаўляці" могуць напісаць „маляняця", замест „адзення" — „адзежа". Але гэта не так істотна, бо акрамя гэтага сайта аўтару артыкула нідзе не ўдавалася сустрэць адозву — „Давайце быць беларусамі з нараджэння!"

Уладальнікі сайта прапануюць кліентам набыць адзенне і іншыя вырабы з тканіны для немаўляці, пашытыя з арнаментам. „Усе гэтыя прадметы выглядаюць цудоўна і якасна, пры гэтым нясуць пратэкцыянісцкую функцыю і глыбокі сэнс, прадуманы і правераны на практыцы нашымі продкамі. Гэта надасць дзіцяці больш сіл і ўпэўненасці ў жыцці", — сцвярджаецца на сайце.

Праўда, не толькі адзенне мусіць быць адметным. Паводле камерсантаў, святочнае аўто таксама патрабуе асобнай увагі. „Першае і мінімальнае, што важна зрабіць тым, хто сустракае з радзільні, — упрыгожыць аўтамабіль або аўтамабілі, на якіх вы прыязджаеце да радзільні. Будзе прыемна Вам і асабліва Каханай", — адзначаюць яны, прапануючы адпаведныя налепкі. Аднак не абышлося тут, на жаль, без недарэчнасці. А ўсё з-за бяздумнага перакладу пытання з рускай мовы ў фразе „У нас мальчик (девочка). Хочешь поздравить? Би-Бикни". Налепка па-беларуску выглядае так: „У нас хлопец (дзяўчынка). Прымаю віншаванні? Праз Бі-Бі". Навошта, напрыклад, радаснаму тату пытацца ў кагосьці, ці ўласна ён прымае віншаванні, зусім не зразумела.

Усё ж такі, нягледзячы на дадзены недахоп, добра, што ёсць людзі, якія праз паслугі маладым бацькам прапагандуюць беларушчыну. А яшчэ лепей было б, калі б у іх як найхутчэй з'явіліся канкурэнты.

Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Кароткі шлях паэта

# 75 гадоў з дня гібелі Алеся Дубровіча

Беларускі паэт, удзельнік заходнебеларускага вызвольнага руху Алесь Дубровіч (сапраўдное прозвішча Аляксей Рэдзька) нарадзіўся ў 1910 г. Дакладны дзень нараджэння невядомы. З'явіўся на свет у вёсцы Галубічы Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер вёска Каралевічы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці). Паходзіў з беднай сялянскай сям'і. Пасля таго, як скончыў вясковую школу, займаўся самаадукацыяй. Рана пачаў удзельнічаць у грамадскім жыцці. У 1933 г. стаў удзельнікам Першага нелегальнага з'езду пісьменнікаў, які ўтварыў Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі.

Друкавацца Аляксей Рэдзька (псеўданім Алесь Дубровіч ён узяў толькі ў 1936 г.) пачаў у 1928 г. у газеце „Доля працы". Пачынаў з дробных карэспандэнцый. У 1933 г. апублікаваны яго першы верш пад назвай „Беларусь". Творчая дзейнасць Аляксея Рэдзькі непарушна звязана з нацыянальным рухам у Заходняй Беларусі. У сваім паэтычным крэда — вершы „Мы" ён сцвярджаў: „Натхненне нашае ў змаганні за шчасце новага жыцця". У 1934 г. у часопісе „Літаратурная старонка", які быў легальным выданнем у Вільні і вакол якога гуртаваліся рэвалюцыйна настроеныя літаратары, надрукавана „Дэкларацыя групы паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі". У гэтую групу ўваходзіў і Аляксей Рэдзька. Ён таксама падпісаў дэкларацыю, за што быў неўзабаве арыштаваны польскай дэфензівай і засуджаны да зняволення. Ажно два з паловай гады Рэдзька сядзеў у віленскай турме на Лукішках. Палітвязні мелі свой рукапісны часопіс „Краты", у ім змяшчаў свае творы і Рэдзька. Тады ён карыстаўся псеўданімамі Макар і Мікіта.

Пасля судовага працэсу ў 1936 г. Аляксей Рэдзька выйшаў на свабоду, фактычна адбыўшы ўвесь тэрмін пакарання да суда. У 1936-1939 гг. друкаваўся пад псеўданімам Алесь Дубровіч у розных заходнебеларускіх перыядычных выданнях („Беларускі летапіс", „Калосce"). Ягоныя вершы мелі выразную сацыяльную афарбоўку, заклікалі да вызвалення роднага краю з-пад уціску. Паэт марыў пра „сінязорны край", які існуе „за хмарамі за горамі", а ў вершы пра абавязак творцы заклікаў яго быць „прарокам яснейшых дзён". Паводле ўспамінаў Валянціна Таўлая, Максім Танк, які быў рэдактарам літаратурнага аддзела „Беларускага летапісу", вылучаў вершы Алеся Дубровіча як досыць яркія і арыгінальныя. Хоць у ідэалагічным аспекце многія з іх былі наіўнымі, пісаліся з верай у савецкае „вызваленне".

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР Алесь Дубровіч працаваў у валасным рабоча-сялянскім камітэце, выбіраўся старшынёй сельскага савета, быў дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку ў 1939 г. Перад Другой сусветнай вайной Дубровіч працаваў у раённай газеце ў Вялейцы, змяшчаў там свае вершы, нарысы, карэспандэнцыі. У час вайны вёў падпольную работу ў родных мясцінах на Глыбоччыне, трымаў сувязь з савецкімі партызанамі. У пачатку лістапада 1942 г. гітлераўцы арыштавалі групу падпольшчыкаў, сярод якіх быў і Алесь Дубровіч. Паэта разам з іншымі расстралялі 7 лістапада 1942 г. ва ўрочышчы Жвіроўня непадалёк родных Каралевічаў.

Паэтычная спадчына Алеся Дубровіча невялікая. Пасля вайны яго друкавалі ў Беларусі ў калектыўных зборніках, некаторыя творы паэта перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы. Бюст паэта ўсталяваны на Алеі знакамітых землякоў у Глыбокім.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ
фота аўтара



## Памяці Ірэны ПАЎЛЮЧУК

Ты зоркай была ў «Рассляваным Гарадку».
Ад самога пачатку яго рассвятляла.
Больш за шэсць дзясяткаў гадоў –
Гарадоцкую зямлю і Беласточчыну расслаўляла.

З песняй ішла праз сваё жыццё,
хаця лёс не быў Табе прыхільны, ласкавы.
Дзякуем вельмі, дарагая, за то,
што цаглінку даклала да нашае славы.

Адышла ад нас, ды ўвесь час стаіць перад вачыма:
элегантная, прыгожая і дастойная – толькі рысаваць!
Падкажы, Добры Божа, ці яшчэ будзе магчымасць,
каб другую Ірэну з такім голасам спаткаць?..

А быў ён непаўторны, чароўны, асаблівы...
Гэта трэба шчыра ўсім прызнаць.
І калі цешыў людскія сэрцы на гэтым свеце,
то ў Царстве Нябесным – тым болей
– павінна з анёламі спяваць.

Толькі нам няўтульны жаль, што больш ніколі
не прыйдзецца нам з Ірэнай выступаць...

**Галена ЛЯХОВІЧ**
**«Рассляваны Гарадок»**

# Бяспека ў Арлянскай гміне

На сесію Гміннай рады 5 кастрычніка г.г. радныя атрымалі пісьмовую інфармацыю пра стан бяспекі і публічнага парадку на тэрыторыі Арлянскай гміны за перыяд з 1 жніўня 2016 да 31 жніўня 2017 года. З яе вынікае — ужо традыцыйна — што сітуацыю трэба ацаніць з задавальненнем.

За згаданы перыяд адзначана агулам 26 законапарушэнняў (у 2016 годзе — 29, у 2015-31, а ў 2008 годзе — 37). Дамінуюць, як і раней, парушэнні, здзейсненыя нецвярозымі вадзіцелямі.

У Павятовай камендатуры паліцыі ў Бельску-Падляшскім праведзена 43 працэсы па правіннасцях. У 91 выпадку віноўнікі былі пакараны штрафам.

Не меншае лік асоб празмерна спажываючых алкаголь і залежных ад яго. Сваімі паводзінамі выклікаюць інтэрвенцыі паліцыі; іх лік намнога ўзбуйнеў. І так, у разгляданы перыяд было іх 262, значыць на 102 больш. Дамінуюць паліцыйныя і дамашнія інтэрвенцыі.

Акцыяй «Блакітных карт» (ужо ад некалькіх гадоў) ахоплены чатыры сям'і. Яны пад пастаяннай увагай участковага, а іх сямейная сітуацыя і паводзіны пад бягучым наглядам. Прычынай гэтаму празмернае спажыванне алкаголю паднаглядными.

Як штогод, дзеля паляпшэння стану бяспекі жыхароў Арлянскай гміны, функцыянеры бельскай Павятовай камендатуры паліцыі правадзілі адукацыйна-прафілактычныя дзеянні.

У рамках паляпшэння бяспекі ды распаўсюджвання ў грамадстве інфармацыі наконт праграмы «Краёвая карта пагроз і бяспекі» былі ладжаны сустрэчы з жыхарамі гміны. У згаданы перыяд у «карту» было занесена 89 пагроз, з чаго 22 былі пацверджаны.

Улічваючы гэта можна заключыць, што на тэрыторыі Арлянскай гміны задавальняючы ўзровень бяспекі і публічнага парадку.

Тэкст і фота
**Міхала МІНЦЭВІЧА**



# 12.11 — 18.11

**(22.03. — 20.04.)** Незалежна ад аўры тэмпература пачуццяў будзе дасягаць рэкордныя вартасці. Але на новых знаёмствах не рабі ніякіх планаў і не слухай абяцанняў. Выклічаш добрае ўражанне, лёгка наладзіш кантакты 16-18.11. на працы даруй справы, якія цябе не датычаць. З 16.11. (да 23.11.) заспець цябе можа абарот спраў на рабоце, будзеш хутка вырашаць аб нялёгкім. Нагоды да службовых паездак, курсаў, наладжвання бізнесовых кантактаў. З 16.11. пратэстуеш сваю адвагу. Штодзень шпацыруй.

**(21.04. — 21.05.)** Смела ажыццяўляй свае намеры. Добрае ўражанне на атачэнні. Абыдзеш прыкрыя неспадзеўкі. Выбірай мудра аб'екты для пачуццяў. Знойдзеш такую асобу, з якой будзе ідэальнае паразуменне; не змарнуй нагоды для знаёмства 11-15.11. На працы крыху стрэсаў і шмат работы, з усім хораша справішся. Калі шукаеш працу, ідзі сам або пакарыстайся рэкамендацыямі. Добры час для размнажвання маёмасці.

**(22.05. — 22.06.)** Засяродзься на сваёй мэце. Будуць нагоды да пашырэння гарызонтаў. 16-18.11. можаш пазнаёміцца з кімсьці, заіскрыцца. Але не спяшайся з абяцаннямі. Слухай добрых парад. Калі ты задаволены сваёй працай, вельмі дбай, каб не страціць выпрацаванай пазіцыі, што можа здарыцца 12-14.11. Еж сардзіны і шпроты разам з касцямі.

**(23.06. — 23.07.)** Прыемна і здавальняюча. Але трымай язык за зубамі, каб не нарабіць сабе моцных шкодных ворагаў. У пачуццях зрабі першы крок 14-18.11. Дабівайся павышэння асабліва з 17.11. (да 19.11.). Але будзь вельмі асцярожны падчас кантактаў з шэфам, супрацоўнікамі і кліентамі 12-14.11., бо можаш згадзіцца на зашмат што. 16-18.11. твае рашэнні адважныя і трапныя. Але 12-14.11. лепш не выбірайся ў падарожжа. З 16.11. магчымыя прыкрыя спрэчкі з сябрамі.

**(24.07. — 23.08.)** Будзь самаўпэўнены. 12-13.11. можаш паказацца ў кепскім святле. З 16.11. (да 22.11.) не ўваходзь паміж пасвараныя бакі. Трэба будзе паправіць або выкінуць папсаванае, гэтаксама з няўдалымі знаёмствамі. 11-15.11. добры час паказаць свае ўмеласці ў шырэйшай кампаніі. Ідзі да лекара, можа патрэбная будзе дробная аперацыя.

**(24.08. — 23.09.)** 11-15.11. знакаміты момант пазмагацца за чыёсьці прызнанне ці пачуццё. Але старыя нявырашаныя праблемы могуць вярнуцца 12-14.11. А 14-18.11. у пары зразумееце, што «вяшчаеце» на адной хвалі і можаце разлічваць адзін на аднаго. Але 12-14.11. магчымыя складанасці, датычныя дому або кватэры, рамонт трэба будзе адкласці, а фармальнасці працягнуцца. На працы «хвасты» 16-18.11. удасца хутка адрабіць.

**(24.09. — 23.10.)** Мноства нагод. 11-15.11. прылiў грошай, прапанова «залатога» інтарэсу (правер, ці ўсё згодна з законам). 14-18.11. удасца табе зачараваць кагосьці, на кім табе залежыць. Зоркі падтрымаюць цябе і прыдбаюць нават бонусы. 16-18.11. можаш выбрацца ў невядомае месца. Мноства работы будзе ад 16.11. (да 22.11.) — на працягу пару дзён зробіш больш чым за паўгода! Але з 16.11. (да 22.11.) крытычныя дні для тваiго здароўя; лепш пакінь машыну ў гаражы.

**(24.10. — 22.11.)** 11-15.11. заззяеш на працы, зробіш добры інтарэс; можаш здабыць павышэнне на працы або смела і з поспехам разглянуцца за іншай. Але 12-13.11. кране цябе чыясь заўвага або прыкрыя паводзіны. 12-14.11. не дай сабе замуціць вачэй падазронымі абяцаннямі. 14-18.11. горача ў пачуццях.

**(23.11. — 22.12.)** Захавай спакой, але не адступайся перад выклікамі. 16-18.11. удалыя падарожжы. Але 12-14.11. магчымыя непаразуменні ў кампаніі. На працы падрыхтуй план дзеянняў. Прыступай да важных экзаменаў, барані сваю пазіцыю. Шукаючы працу, памятай, што важны не толькі ўмеласці і вопыт — трэба ведаць як усё гэта «прадаць», таксама пахваліцца.

**(23.12. — 20.01.)** Спрыяюць табе многія. Справішся з канкурэнтамі. Спадзявайся на рамантычны вечар 14-18.11. Геніяльныя задумы народзяцца ў тваёй галаве 16-18.11., але не ўсе гэта будуць адабраць. Будуць інтрыгі ад 16.11. (да 22.11.), не ўваходзь у ніякія лады, не вер плёткам (асабліва 12-14.11.). Можаш дамагчыся вяртання даўгоў 16-18.11.

**(21.01. — 19.02.)** У сваіх поспехах будзеш абавязаны сабе. Справішся з усімі абавязкамі, навучышся новага. 16-18.11. можаш пазнаёміцца з кімсьці з такімі самымі захапленнямі (няхай не турбуе гэта тваю палавінку!). Кантакты з атачэннем напружаныя; не абражайся. Задбай аб свой піяр у прафесіі. Перастанеш траціць грошы — пачне іх у цябе прыбываць.

**(20.02. — 21.03.)** Захочацца жыць багацей, але лепш трымай вужа ў кішэні. Калі хочаш кагосьці зачараваць, прыгожа апраніся і будзь блізка тае асобы найлепш 14-18.11. На Рыбы з другой дэкады можа наляцець любоў, пра якую толькі чыталі ў раманах! Для пастаянных пар найлепшы час 11-15.11. Будзь вельмі дбайны ў бізнесовых размовах 12-14.11. — можаш трапіць на несумленнага партнёра ці пасрэдніка; шукаючы працу не памыліся ў матывацыйным лісце ці ў размове з рэкруцёрам. 12-14.11. не памылі сваіх фантазій і мар з рэальнасцю.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** хімічны элемент н-р 56, **2.** выбуховае рэчыва ў патронах агнястрэльнай зброі, **3.** рака, у якой утапілася Вірджынія Вульф (*Ouse*), **4.** ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек дажджу, **5.** левы прыток Дняпра ў... консула, **6.** рака ў Астане, Есіл, **7.** маладзён, які вядзе сябе экстравагантна (*hippie*), **8.** агонь, які відаць над гаручым прадметам, **9.** прыбор для пісання ў... папяросе, **10.** сталіца на Ішыме, **11.** саўдзельнік у хаўрусе.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | | | |
| | 2 | | | | | 3 | | | 4 | |
| | | | | 5 | 6 | 7 | | 8 | | |
| | | 9 | 10 | | | | 11 | | | |
| | | | | | | | | | | |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, які на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Зіма, заяц, крыло, Люблін, сечка, толь, цаца, ціс.

Рашэнне: **Кастрычнік зямлю балоціць а лес залоціць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.


**Ніва**
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Летняя школа беларусістыкі — 2017




## Два мінусы даюць плюс, паслушэнства як бунт

Напэўна старэйшыя на дваццаць гадоў ужо ведаюць, што славуты хіт рок-групы «Scorpions» пра веру змен тычыўся павеваў крыху іншай натуры. Вецер, які меў быць тым, які разбурае вавілонскія муры, быў ветрам пушчаным у кішэчнік вавілонскай блудніцы. Муры растуць, як свет доўгі і шырокі, а там, дзе няма сродкаў на акуратны бетонны мур, ставяць прынамсі засекі. На межах, у грамадстве і ў галовах.

Той вельмі даслоўны засек паміж Польшчай і Беларуссю не найбольшы. Мяжа з суседкай гэта паперкі, грошы, чэргі ў консульстве, а часам і расчараванне, калі адмовяць у візе. Для больш шасці шанцуе і можна цешыцца з эфектаў укладзенай энергіі. Хаця вадзіцелі маршрутак і так могуць разлічваць на спецыяльныя прывілеі, невядома чаму ў час, калі пагранічнікі правяраюць пашпарты, найчасцей выходзяць з маршруткі курацы цыгарэту так прагна, быццам бы забыліся, што вяртаюцца ў рай для курцоў. У краіну, дзе матыватары не вылічаюць, якую машыну можна было б набыць, калі б не згубленыя грошы на тытунь.

— Магу запальнічку? — пытаюся.

— Палячка? Я таксама католік.

— А, пэўна маеце Карту паляка? То Вы паляк?

— Які там паляк!? Так лягчэй вырвацца з гэтага калгаса! Што тут рабіць?

Палякі адправілі, едзем далей. Спакайней — мытніца не заўважыла маёй мяснай лазанні з «Бядронкі». Бо, як аказваецца, беларускае масла, якое мы нелегальна перавозім сюды, ім ужо стаіць вышэй горла і хочацца нешта капіталістычнага. Лазання нібы мясная, але асоба, якая заказвала яе ў мяне, гаварыла, каб не нервавацца, толькі глянуць колькі там рэальна знаходзіцца чыстага мяса.

— От первого июля нельзя ввозить в Республику Беларусь ягод, орехов... — манатонным голасам абвясціла беларуская мытніца.

— Да каторага? — пытаюся.

— На завшэ!

З такімі вялікімі квантыфікатарамі («заўсёды», «ніколі», «усюды», «нідзе», «усе», «ніхто»...) трэба быць асцярожным, каб не сказаць: заўсёды іх злоўжываем. Можна памірыцца з гэтым, што «заўсёды» і г.д. у звычайным разуменні гэта не тое самае, што ў лагічным, і не пераймацца. Нават на Беларусі.

## Праз Гародню на станцыю Леніна

III Летнюю школу беларусістыкі арганізаваў Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы (РІВШ). Валанцёры — студэнты Мінскага ўніверсітэта вельмі ветліва займаліся вучнямі, якія з'язджалі ў горадгерой з розных напрамкаў свету. Усе ўдзельнікі школы ўжо раней атрымалі інфармацыю, што з вакзала найлепш сесці на метро «Станцыя Леніна» і за адзін прыпынак выйсці на станцыі «РІВШ». Амаль кожны ахвотны вывучыць беларускую мову пачаў вандроўку па веды цераз «Станцыю Леніна».

Прывітальная сустрэча адбылася ўжо ў нядзелю, 2 ліпеня. Кожны з удзельнікаў, таксама раней папярэджаны, меў падрыхтаваць прэзэнтацыю пра сваю краіну: праспяваць песню, падрыхтаваць ласунак, можа нейкую пастаноўку ці зняць смешны ролік, проста ў неканвенцыйны спосаб распавесці пра сваю бацькаўшчыну. Не паспела я нічога падрыхтаваць, лазання была з'едзена яшчэ ў Гародні. Апрача мяне з Польшчы прыехала сем чалавек: з Быдгашчы і Варшавы, а таксама з Гайнаўкі. За намовай Юркі, былога вучня галоўнага рэдактара «Нівы», расказалі мы пра беларусаў Падляшша — так было найпрасцей.

## Незалежнасць х 2

На Беларусі свабода слова заключаецца ў тым, каб не мець патрэб. Па ўрачыстай вечарынцы наступнага дня ўсіх удзельнікаў таксама чакала ўрачыстае святкаванне крыху большага маштабу — Дзень незалежнасці Беларусі. Прысутнасць у свяце была ўпісана ў праграму. На самым пачатку школы хапала яшчэ амбіцыі, каб рэалізаваць усе яе пункты. Супольна з трыма сябрамі з Польшчы выбраліся мы на «праздник», да якога сур'ёзна рыхтаваўся даўжэйшы час кіраўнік дзяржавы. Кірмашы, дым з грыля, смажаныя кілбаскі, піва, шум... Пазней танкі, самалёты, энтузіязм, трактары, хaладзільнікі, мэбля, феерверкі... а вяртаючыся — зноў дым з грыля, смажаныя кілбаскі, піва... І пэўна я сама недзе б села, бо ўсё спакушальна пахла, аднак зараз меў пачынацца пікет Статкевіча на Плошчы Незалежнасці. Туды пайшоў са мной толькі адзін удзельнік школы, Роберт, які ўпершыню быў на Беларусі. Магчыма, калі б у праграме было напісана, што танкі, феерверкі і самалёты ў Мінску можна часцей убачыць, чым бел-чырвона-белы сцяг на яго вуліцах, было б больш зацікаўленых.



Менавіта тут, на Плошчы, цікавейшы за Статкевіча быў амаль дзевяностагадовы дзядуля, які хадзіў з маленькім сцяжком з Пагоняй. Ніводных шумных лозунгаў, пікетнай звышактыўнасці — спакой.

— Я ўжо за стары, каб нечага баяцца. Мне больш за восемдзесят, — і з чорным беларускім гумарам дадаў: — Але не-е-е, жывога мяне не возьмуць!

Наогул пасля ўсяго ўбачанага «независимага», склалася ўражанне, што сістэма разбурае ўсё гэта, што было для старэйшых пакаленняў свойскім і вартасным. Сістэма гэтыя вартасці змалола ў адну кашку, з якой стварыла разнастайныя калярова запакаваныя свечкі, вобразы і гукі, якія ўпіхвае назад самотным, ашаломленым людзям.

## Добра, што Беларусь гэта жанчына

У школу прыехалі людзі са Штатаў, Кітая, Японіі, Украіны, Чэхіі, Славакіі, Расіі, Польшчы, Іспаніі, Швецыі... Адны дзеля гульні, другія былі тут накіраваныя ад нейкіх устаноў, яшчэ іншыя пры нагодзе, і , вядома, з цікавасці да Беларусі, а таксама з мэтай вывучыць мову. Найбольш яркія былі ўкраінкі. Не толькі ведалі беларускую мову на высокім узроўні, то яшчэ заўсёды можна было на іх разлічваць, калі нехта з дакладчыкаў сказаў: «На Падляшшы людзі карыстаюцца польскімі гаворкамі», або: «Працуем над стварэннем беларускай лацінкі». Адна — былая прыхільніца Бандэры, узбутаваная гуманістка, плён матэматычна-фізічнага сужонства, другая — нашчадак славутага казацкага роду.

— Цікаўлюся славянскімі мовамі, беларуская пашырае мой свет зацікаўленняў. Апрача таго захапляюся Гароднѣй і хацела б яшчэ туды вярнуцца.

— А Ты хацела б жыць на Беларусі? Твой хлопец згэтуль, — пытаюся.

— Не! — і тады наступіў сапраўды шчыры смех.

Калі былі нейкія сутычкі з прафесарамі, заўсёды пасля даклада адзін з валанцёраў спачатку размаўляў з намі і падзяляў наша становішча, зачым вінаваў прафесара з дакладам. Наогул, калі нават гаварыў нейкую банальнасць, пра якую кожны ведае, альбо можа дадумацца, сцішаў голас, нахіляўся і шаптаў, адначасова водзячы вачыма на бакі так моцна, наколькі дазвалялі вочныя яблыкі. Такі звычайны прафесар на кафедры жыцця.

У праграме школы былі не толькі заняткі, але і экскурсіі, паездкі. Між іншым, у Нацыянальны гістарычны музей па вуліцы Карла Маркса. Пасля пятай сацрэалістычнай карціны прыйшла ахвота адведаць музейны буфет.

— Я не аглядала прац ні разу, — сказала маладая дзяўчына, якая працавала за прылаўкам. — Можа там і часам нешта цікавае, але мне ўсё тут надаела.

— Але бачу, што ў прыватным жыцці пашанцавала, мужа маеш!

— Так, як толькі завяршыла ліцэнцыят, выйшла замуж. У Мінску па-іншаму немагчыма. Тут зарабляю 400 рублёў. Хапае толькі аплаціць кватэру.

Такая паспяховая сямейная палітыка на Беларусі гэта нечаканая раўнадзейная цэлай сістэмы. Адваротна, да адкрытага «парадкавання» справы сексуальных меншасцей. Вось, менавіта таму пасля заняткаў у некалькі чалавек пайшлі мы ў Беларускі свабодны тэатр на спектакль, які менавіта кранаў гэтую тэму. Тэатр дзейнічае ў падполлі. Здаралася, што іхнія спектаклі перапынялі паліцэйскія. У невялікай зале, дзе адбывалася прадстаўленне, было душна. Душылі таксама часам і дыялогі, «адважныя» сцэны. Пасля спектакля Роберт, які як адзіны пайшоў са мной на пікет Статкевіча, сказаў:

— Я разумею ўжо чаму іх Лукашэнка ганяе.

## Сухое віно — тонкая дыскусія

Пасля вяртання з Мінска патрэбны быў дзень, каб неяк плаўна вярнуцца ў сваю рэчаіснасць. Прырода нібыта супакойвае. Здавальняючы быў таксама парк на Звяжынцы, віно хаване ў пакеце і сябар, які заўсёды ўмеў спалучаць неспалучальныя канцэпцыі плыняў і ідэй. Пасля маіх расказаў пра двухтыднёвую пабыўку, звярнулася я да яго з пытаннем, што ён думае пра Беларусь.

— Nie lubię się chwalić niekompetencją.

Заўсёды гаварыў аб рэчах, пра якія, як мне здавалася, не меў паняцця. Усё нібыта ўмеў патлумачыць, найбольш абсурдныя рэчы, а тут заўпарціўся.

— Проста цікавіць мяне, што Ты, як паляк закаханы ў беларускай падляшскай культуры, думаеш пра нашу цяперашнюю Маці-Радзіму, — далей намаўляла да адказу.

— Jestem za Unią Europejską zgodnych regionów, przeciw państwom narodowym i autorytaryzmowi, a także przeciwko związkom partnerskim i napadaniu zbrojnym na sąsiadów. A Baćko jest najwytrawniejszym politykiem w okolicy, co z g... bicz ukręcił.

Факт, два ліпеньскія тыдні ў Мінску былі халоднымі і сапраўды веяла! Але гэта зноў не той вецер. Напэўна з Усходу.

Тэкст і фота **Уля ШУБЗДА**

ISSN 0546-1960
46